ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№44 (2550) 30 кастрычніка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г. Цана 1 000 рублёў.

РАЗВІЦЦЁ ТУРЫЗМУ ПРАЗ СВАБОДНУЮ ЭКАНАМІЧНУЮ ЗОНУ

## «ЗАЛАТОЕ КОЛА БЕЛАРУСІ»? ЧАМУ НЕ?..

**Пра тое, што Беларусь — краіна "безнадзейная" ў турыстычных адносінах, даводзілася чуць неаднойчы. Замежныя падарожнікі да нас амаль не едуць, хіба толькі хто асабліва зацікаўлены ці да сваякоў. Атэляў добрых няма, помнікі даўніны ўсё больш разбураюцца: нікому не патрэбныя, індустрыі адпачынку практычна не існуе. Аднак — і гэта заканамерна — знайшліся людзі, якія вырашылі: з такім становішчам мірыцца больш нельга. У выніку іх працы нарадзілася ідэя стварэння "Залатога кола Беларусі" — турыстычна-экскурсійнага маршруту, які ахопліва ўсе найбольш значныя гістарычныя, культурныя і прыродныя славутасці краіны. Пра гэта расказвае кіраўнік праекта, саветнік Нацыянальнага турыстычнага канцэрна "Белінтурыст" Яўген ПАРФІЯНОВІЧ.**

— *Яўген Антонавіч, якая галоўная ідэя праекта?*

— Калі коратка, то можна адказаць наступным чынам: развіваць турызм праз свабодную эканамічную зону — своеасаблівую лабараторыю руху рэформ. "Залатое кола Беларусі" нам, распрацоўшчыкам, уяўляецца менавіта ў такім варыянце.

— *Але для паспяховай рэалізацыі падобнай свабоднай эканамічнай зоны трэба мець адпаведны "турыстычны рынак"!*

— Так, мы якраз і зыходзім з таго, што за апошнія шэсць год на Беларусі склаліся асноўныя рынкі, у тым ліку і рынак турыстычных паслуг. У нас сёння дзейнічае больш за 500 фірм, якія займаюцца адпраўкай беларускіх вандроўнікаў за мяжу. Тых, хто прымае турыстаў тут, канешне, значна менш. Такое



**НА ЗДЫМКУ: старажытны млын у Дудутках на Міншчыне.**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Маэстра.

Фота Валерыя БЫСАВА.

КАМП'ЮТЭРНАЯ СЕТКА
ЗМЯНІЛА АБЛІЧЧА СВЕТУ

## ІНТЭРНЕТ. ЖЫЦЦЁВАЯ ПАТРЭБА

Упершыню ідэя камп'ютэрнай сеткі, якая дапамагала б аператыўнаму абмену інфармацыяй паміж шэрагам даследчых цэнтраў ваеннай прамысловасці ЗША і іх калег за рубяжом, узнікла чвэрць стагоддзя назад. Тады колькасць камп'ютэраў, якія аб'ядноўвала сетка ARPANET — папярэдніца Інтэрнета — вымяралася дзесяткамі... У 1992 годзе Інтэрнет аб'ядноўваў мільён камп'ютэраў, у 1993 годзе — ужо два мільёны. Сёння можна гаварыць, што глабальная сетка, якая з'яўляецца і спосабам сувязі, і сродкам доступу да інфармацыйных рэсурсаў ва ўсіх галінах ведаў, ужо змяніла аблічча нашага свету.

У Беларусь Інтэрнет прыйшоў зусім нядаўна і многім да гэтага часу здаецца загадкавай экзотыкай ці непатрэбнай раскошай. Пагаворым аб найболыш цікавых напрацоўках беларускіх карыстальнікаў і перспектывах, якія "сусветная павуціна" сёння прадастаўляе тым, хто яшчэ ўчора нічога аб ёй не чуў.

Пры тым, што ва ўсім свеце Інтэрнет развіваецца спантанна, для яго тэхнічнага ўкаранення неабходныя першапачатковыя ўкладанні. У Беларусі патрэбныя сродкі меліся толькі ў дзяржавы, якая ў асобе нацыянальнай сеткі перадачы даных БелПак стала галоўным і адзіным правайдарам (кампаніяй, што прадастаўляе канал для выхаду ў Інтэрнет) у рэспубліцы, чыя манаполія клапатліва замацавана законам. Акрамя БелПака на рынку прысутнічае шэраг дробных правайдараў, якія арандуюць канал у агульнарэспубліканскай сеткі перадачы інфармацыі.

Для параўнання заўважым, што ў Маскве колькасць правайдараў вымяраецца дзесяткамі, а паколькі ў Расіі сёння апярэрыюць іншымі сумамі на падставе другога заканадаўства, і ў адрозненне ад Беларусі там праблем з атрыманнем ліцэнзій не ўзнікае, многія сумесныя прадпрыемствы і буйныя фірмы проста выкупляюць спадарожнікі, забяспечваючы сабе такім чынам уласныя каналы. Беларусь жа сёння з Інтэрнетам звязваюць усяго два ўваходы: мегабітны спадарожнікавы канал і 256-кілабітны канал, падключаны да найбуйнейшага расійскага правайдара "Дэмас".

Пры стварэнні Інтэрнета ніхто не мог уявіць, якімі тэмпамі будзе развівацца "сусветная павуціна". Аб тэмпах яго росту гаворыць хаця б той факт, што раз у восем месяцаў аб'ём сеткі павялічваецца ў два разы. У Беларусі гэтыя тэмпы цалкам адпавядаюць сусветным. Сёння ў БелПака каля тысячы абанентаў, штомесячны прырост — каля ста чалавек. Па ўсіх параметрах у развіцці гэтага віду сувязі лідзіруе, вядома, Мінск. Увогуле ж, да Інтэрнета падключаны ўсе абласныя гарады і 22 раённыя цэнтры. Аднак састарэлае абсталяванне, якім там карыстаюцца, не адпавядае сучасным патрабаванням да хуткасці камунікацый. На сённяшні дзень БелПак цалкам забяспечвае патрэбы ў Інтэрнет — сувязі ўсіх патэнцыяльных беларускіх карыстальнікаў.

Існуючая ў Інтэрнеце інфармацыя аб Беларусі развіваецца ў двух напрамках: да першага можна аднесці рэсурсы, створаныя за межамі рэспублікі адзіночкамі- энтузіястамі, як правіла, з ліку змучаных настальгіяй былых суайчыннікаў, якія сёння жывуць за рубяжом. На такіх старонках часцей за ўсё размешчана пазнавальная інфармацыя аб краіне, напрыклад, карта Беларусі з гербамі ўсіх гарадоў і расказ пра іх, звесткі гістарычнага характару. Не так даўно ў Прыбалтыцы быў створаны раздзел пад назвай "Мінск у тваёй кішэні", дзе прадстаўлена карта горада, пералік музеяў, гасцініц і іншыя карысныя для турыста звесткі. Інфармацыя на такіх сайтах (камп'ютэрных старонках), як правіла, пас-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА: ПОГЛЯД НА МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ

**Гістарычны лёс беларускага народа, які так часта быў да яго не надта спагадлівым і літасцівым, спрыяў рассейванню беларусаў па свеце. Яны пакідалі добраахвотна, а галоўным чынам, вымушана і прымусова свае спрадвечныя землі, а то і проста апыналіся ў замежжы (па-за дзяржавай пражывання этнасу) на сваіх гістарычных тэрыторыях у выніку барацьбы за беларускія землі і палітычных гульняў больш моцных суседзяў.**

**Як жа фарміравалася беларуская дыяспара, якія прычыны і ўмовы вызначылі яе колькасць, суадносіны добраахвотнасці і гвалтоўнасці ў перасяленнях розных часоў і як гэтыя працэсы адбіліся на жыцці народа, стане яго нацыянальнай свядомасці?**

(Працяг на 4-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*У АФІЦЫЙНЫМ ЛЮСТЭРКУ*

# У НАШАЙ КРАІНЕ НЯМА ПАДСТАЎ ДЛЯ РЭЛІГІЙНАЙ ВАРОЖАСЦІ



**Упершыню за многія гады Беларусь наведалі прадстаўнікі кіраўніцтва каталіцкай царквы. 21 кастрычніка адбылася сустрэча Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі з іерархамі Ватыкана, якія прыбылі ў Мінск на ўрачыстае асвячэнне абноўленага Кафедральнага касцёла імя Найсвяцейшай Панны Марыі.**

**"Сёння ў Беларусі назіраецца росквіт рэлігійнага жыцця. Гэта стала магчымым у выніку дэмакратычных пераўтварэнняў, што адбываюцца ў рэспубліцы, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Па даных апошніх сацыялагічных даследаванняў, рэйтынг давер'я да царквы грамадзян краіны значна вырас і намнога апярэджвае папулярнасць партый, рухаў і асобных палітыкаў".**

**Прэзідэнт падкрэсліў, што ў Беларусі няма рэлігійнай варожасці. На яго думку, так адбываецца дзякуючы талерантнасці народа, якому гістарычна ўласцівая павага да рэлігійных пачуццяў вернікаў. Таму кіраўнік дзяржавы, шануючы традыцыі свайго народа, заклікаюы аднолькава ставіцца да ўсіх канфесій, якія прысутнічаюць у краіне. І тут Аляксандр Лукашэнка самакрытычна заўважыў, што раней недастаткова ўвагі ўдзяляў праблемам каталіцкай царквы, і паабяцаў, што ў далейшым абавязкова ліквідуе гэты недахоп.**

**"Ёсць дзве каштоўнасці, якія павінны быць збалансаваны ў дзяржаве, — рэлігія і нацыянальнасць, — заявіў Прэзідэнт. — Раўнапраўе канфесій забяспечвае і Канстытуцыя Беларусі. Нічым і ніколі не ўшчамляць рэлігійных і нацыянальных пачуццяў грамадзян Беларусі — гэты прынцып пакладзены таксама ў аснову маёй палітыкі".**

**Словы кіраўніка дзяржавы пацвярджаюць і такія факты. Колькасць рэлігійных абшчын на тэрыторыі рэспублікі з 1994 года павялічылася ў два разы. Сёння іх налічваецца 2 206. Вяртаюцца веруючым і культавыя будынкі. За апошнія гады перададзена розным канфесіям 546 храмаў, з іх 192 — каталіцкай царкве.**

**Са словам у адказ да Аляксандра Лукашэнкі звярнуўся спецыяльны пасланнік папы рымскага Іаана Паўла ІІ кардынал Эдмунд Шока. Ён перадаў ад пантыфіка прывітанне і благаслаўленне Прэзідэнту Беларусі, а таксама ўручыў яму памятны медаль, прысвечаны 19-му году знаходжання папы Іаана Паўла ІІ на прастоле Вытыкана.**

**У сустрэчы ўдзельнічалі таксама мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Казімір Свёнтэк, прымас Польшчы Юзэф Глемп, мітрапаліт Рыжскі Яніс Пуятс, мітрапаліт Львоўскі Мар'ян Яворскі, апостальскі адміністратар для каталікоў еўрапейскай часткі Расіі Тадэвуш Кандрусевіч, іншыя каталіцкія іерархі.**

**НА ЗДЫМКУ: у час прыёму.**

*АДРОДЖАНА КАТАЛІЦКАЯ СВЯТЫНЯ*

# РЭКАНСЭКРАЦЫЯ КАТЭДРЫ

**21 кастрычніка ў дванаццаць гадзін на плошчы Свабоды ў Мінску адбылася рэкансэкрацыя (паўторнае асвячэнне) Кафедральнага касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі (Катэдры).**

**Каталіцкая святыня была ўзведзена ў 1700—1709 гадах на месцы драўлянай езуіцкай капліцы і ў той час мела найменне касцёла Ісуса, Марыі і святой Барбары. Пасля засначання ў 1798 годзе Мінскай епархіі касцёл стаў кафедральным. У 1934 годзе яго закрылі, а тутэйшага ксяндза расстралялі. У 1948—1951 гадах галоўны фасад з вежамі быў разбураны, памяшканні перапланаваны. Некалькі дзесяцігоддзяў тут размяшчаўся Дом фізкультуры і савет спартыўнага таварыства "Спартак". У апошнія "атэістычныя" гады колішні касцёл арандавала Беларуская Федэрацыя тэхквандо.**

**У канцы 1993 года, пасля доўгіх старанняў вернікаў, будынак вярнулі каталіцкай грамадзе, і тады ж, на каталіцкія Каляды, у ім адбылося літургічнае набажэнства, якое ўпершыню трансліравала рэспубліканскае тэлебачанне. 6 жніўня 1994 года пачалася архітэктурная рэканструкцыя касцёла.**

**Рытуал асвячэння Кафедральнага касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі выканаў кардынал Казімір Свёнтэк, арцыбіскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі, якому споўнілася 83 гады. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел кардыналы, біскупы, святары рыма-каталіцкай царквы з ЗША, Італіі, Ватыкана, Германіі, Польшчы, краін Балтыі і СНД, прадстаўнік Патрыяршага Экзарха ўсёй Беларусі, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, прадстаўнікі іншых хрысціянскіх дэнамінацый.**

**Набажэнствы ў Мінскай Катэдры, як заявіў пробашч касцёла Антоні Клімантовіч, будуць праходзіць на беларускай мове.**







*У ПРАДСТАЎНІЦТВЕ ААН*

# ТРЫ ПАДЗЕІ

**Адразу тры знамянальныя падзеі адзначае прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у нашай рэспубліцы: пяцігоддзе свайго знаходжання ў Беларусі, выхад у свет трэцяй нацыянальнай справаздачы аб чалавечым развіцці, а таксама галоўнае свята Аб'яднаных Нацый — Міжнародны дзень ААН, які адзначаецца ва ўсім свеце 24 кастрычніка. Па словах кіраўніка прадстаніцтва ААН у Беларусі Паўла Крала, за пяць год існавання ў Беларусі прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з яе бюджэту нашай рэспубліцы была прадастаўлена дапамога ў памеры 14 мільёнаў долараў ЗША.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

# БЕЛАРУСКІ ПАСОЛ У КАНАДЗЕ

**Беларусь і Канада маюць даўнюю гісторыю супрацоўніцтва ў рамках міжнародных арганізацый.**

**Разам з тым абедзвюм краінам яшчэ толькі трэба будзе пісаць гісторыю двухбаковых адносін. Аб гэтым заявіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Канадзе Міхаіл Хвастоў у час уручэння ім вярыцельных грамат генерал-губернатару Канады Рамео Леблану. Як паведамілі ў прэс-службе беларускага знешнепалітычнага ведамства, цырымонія адбылася 21 кастрычніка ў Атаве.**

**На думку Міхаіла Хвастова, адкрыццё беларускага пасольства ў Канадзе павінна стаць першым крокам на шляху паглыблення палітычных і эканамічных адносін паміж дзвюма дзяржавамі.**

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

ТРЫ НОВЫЯ мадэлі трактароў "Беларусь" і пагрузчык дэманстравала на міжнароднай выставе "Аграпрадмаш-97" аб'яднанне "Мінскі трактарны завод". Выстава адбылася ў Маскве, на Чырвонай Прэсні.

У БРЭСЦЕ прайшоў першы нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў, дзе дэманстраваліся стужкі, створаныя на "Беларусьфільме" ў 1995—1996 гадах. Фестываль будзе праводзіцца раз на два гады ў буйных гарадах Брэсцкай вобласці.

ФРАНКА-БЕЛАРУСКІ артыстычны сезон пачаўся ў Мінску. Праводзяць яго пасольства Францыі ў Беларусі і наша Міністэрства культуры. Рэтраспектыўны паказ французскіх фільмаў, канцэрты французскай класічнай музыкі, літаратурныя чытанні — такі змест "французскай восені" ў Мінску, якая будзе доўжыцца да 10 снежня.

ЛІДЭР Беларускага жаночага руху "Адраджэнне Айчыны" Тацццяна Ваніна аштрафавана на 30 мільёнаў рублёў. У віну ёй паставілі тое, што, будучы арганізатарам шэсця супраць галечы, голаду і холаду, якое адбылося ў Мінску 12 кастрычніка, яна дапусціла выкарыстанне незарэгістраванай сімволікі: сцягоў "Маладога фронту" і кангрэса прафсаюзаў, атрыбутаў у выглядзе "чучалаў" насякомых і птушак, якія былі спалены ўдзельнікамі несанкцыяніраванага мітынгу.

АКЦЫЮ пратэсту супраць Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", больш за сто паправак да якога прыняла Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, правялі 19 кастрычніка сталічныя журналісты. З завязанымі вуснамі, пад лозунгам "Свабоду слова на Беларусі" яны прайшлі па праспекце Ф. Скарыны ад Дому друку да сквера імя Янкі Купалы, дзе адбыўся кароткі мітынг.

САЦЫЯЛЬНАЕ жыллё, магчыма, у хуткім часе з'явіцца ў Беларусі. Гэта будзе проста бясплатнае жыллё для небагатых людзей. Такое жыллё нельга будзе ні абмяняць, ні прыватызаваць.

*ВАГОН СПЕЦЫЯЛЬНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ*

# НА ЎСЯКІ ПАЖАРНЫ ВЫПАДАК

**Новы вагон спецыяльнага прызначэння створаны ў Аршанскім вагонным дэпо. Прызначаны ён для ўтылізацыі шкодных выкідаў і ачысткі глеб пасля аварый, якіх, на жаль, не ўдаецца пазбегнуць на чыгунцы.**

**Як паведамілі работнікі дэпо, вагон забяспечаны прыстасаваннем, якое дзейнічае як пыласос. Яго прымяненне дасць магчымасць значна паскорыць работы па ліквідацыі вынікаў аварый і зменшыць выкарыстанне ручной працы.**

*КРЫМІНАЛ*

# ПАДБІЛІ БАБКІ

**Праваахоўныя органы Магілёўскай вобласці падвялі вынікі работы за дзесяць месяцаў бягучага года. За гэты час у рэгіёне зарэгістравана больш як 15 тысяч злачынстваў.**

**Адзначана вельмі небяспечная тэндэнцыя: рост на 95 працэнтаў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года цяжкіх злачынстваў — крадзяжоў, разбояў і забойстваў. У той жа час і дасюль не раскрыта больш як 48 тысяч злачынстваў, учыненых у мінулыя гады, у лік якіх уваходзяць 134 забойствы і замахі на жыццё.**

# «ЗАЛАТОЕ КОЛА БЕЛАРУСІ?» ЧАМУ НЕ?..

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

становішча вельмі шкоднае для нацыянальнай эканомікі. Тым больш, што і на Беларусі можна выдатна адпачыць! Умовы для гэтага ёсць: чыстае паветра (ў параўнанні з краінамі Заходняй Еўропы дык вельмі чыстае, бо адсутнічаюць горнапрамысловыя і вялікія індустрыяльныя раёны); лясы, дзе збіраюць грыбы і ягады, нядрэнна палююць; азёры, багатыя на рыбу. Некаторыя ландшафты Беларусі сёння сталі для Еўропы проста унікальнымі, а помнікі гісторыі і культуры краіны — сапраўдны ўклад у скарбніцу сусветнай цывілізацыі.

***— А чаго не хапае!..***

— Не хапае адзінага — развітой інфраструктуры турызму і нармальнага еўрапейскага ўзроўню сервісу. Ліквідаваць гэты, мякка кажучы, недахоп мы і прапануем. Не проста прапануем, але гаворым, як і што трэба зрабіць.

***— Вы лічыце, гэта нам па сілах!***

— Патэнцыял ёсць. Напрыклад, мы маем нядрэнна развітую транспартную сістэму: па тэрыторыі Беларусі праходзяць тры міжнародныя транспартныя калідоры: Варшава — Мінск — Масква, Кіеў — Віцебск — Пецярбург і Рыга — Мінск — Харкаў. Таксама склалася шчыльная сетка сельскіх і гарадскіх, асабліва малых і сярэдніх населеных пунктаў. Дарэчы, ідзя праекта яшчэ каштоўная і тым, што яе рэалізацыя непазбежна паспрыяе адначасоваму развіццю пэрыферыйных тэрыторый. І дапаможа ў гэтым, як я ўжо казаў, свабодная эканамічная зона. Пры яе абгрунтаванні мы ўлічвалі шэраг тэндэнцый, характэрных для сённяшняй беларускай эканомікі.

Па-першае, апошнім часам вызначаўся рост долі паслуг у стварэнні валавога нацыянальнага прадукту — з 27,9 працэнта ў 1990-м годзе да 46,6 працэнта ў 1995-м. Па-другое, з-за рэструктурызацыі ў айчыннай прамысловасці расце ўзровень беспрацоўя — па прагнозах экспертаў, у канцы 1997-га года яно складзе 5 працэнтаў, — а праект прадугледжвае стварэнне вялікай колькасці новых рабочых месцаў у самых розных галінах — ад будаўніцтва да народных рамёстваў.

Акрамя таго, многія помнікі прыроды, гісторыі і культуры Беларусі знаходзяцца ў сапраўды жахлівым стане: у дзяржавы сёння не хапае грошай на адпаведную падтрымку. У такіх умовах адзінай крыніцай фінансавання ўсіх разнастайных славутасцей робяцца яны самі, дакладней, выкарыстанне іх для развіцця турызму ў краіне.

***— Цікава было б даведацца больш падрабязна пра "Ісκрынку" праекта.***

— Заходнай функцыянальнай сферай дзейнасці СЭЗ "Залатое кола Беларусі" выбраны турызм, зарыентаваны на нацыянальныя аб'екты гісторыі, унікальныя прыродныя комплексы і зоны адпачынку Беларусі. Дапоўніць гэта разнастайныя атракцыёны, спартыўныя і забаўляльныя мерапрыемствы, развітое грамадскае харчаванне і гасцінічная гаспадарка. І вось тут аўтары праекта плануюць асобную сферу, якая павінна надаць Беларусі пэўную спецыфіку (як кракадзілы Сінгапуру) — рыбалку, у прыватнасці, развядзенне і лоўлю вугра. Цэнтрам такога "рыбнага" турызму стала б Паазер'е — рэгіён на поўначы Беларусі.

***— Што канкрэтна павінна ўключаць у сябе "Залатое кола Беларусі"!***

— Наша кола складаецца з асобных лакальных раёнаў, у якіх комплексна прысутнічаюць каштоўныя аб'екты прыроды і ландшафту: вадаёмы, лугі, лясы, нізіны і ўзвышшы; помнікі археалогіі, архітэктуры, сядзіба-паркавага мастацтва; мемарыяльныя сядзібы і манументы; хутары і фальваркі, вёскі і пасёлкі, мястэчкі і малыя гарады; традыцыйна-гістарычная культура, прадстаўленая дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам, народнымі рамёствамі і промысламі. У якасці прыкладаў лакальных раёнаў можна назваць пінскае Палессе, столінскае Палессе, Тураўшчыну, Мазыршчыну, Случчыну, Браслаўшчыну... Гістарычныя правінцыі, у сваю чаргу, утвараюць гісторыка-этнаграфічныя раёны: Палессе, Панямонне, Падняпроўе, Падзвінне, Цэнтральны раён. Яны спалучаюць у сабе адзінства прыродна-геаграфічных і культурна-гістарычных фактараў: Палеская нізіна і самабытная палеская культура, марэнныя грады і азёрныя нізіны Падзвіння, культура папачан і г. д. Лакальныя раёны і рэгіёны звязаны гістарычнай інфраструктурай камунікацый: "Шлях з варагаў у грэкі", "Вялікі пасольскі шлях", "Вітаўтава дарога", "Дарога замкаў", "Манаскія дарогі", "Кацярынінскі тракт" і г. д.



Трэба адзначыць: у сувязі з гэтым прапануецца перспектыўнае будаўніцтва чыгункі еўрапейскага тыпу: Маладзечна — Нарач — Паставы — Відзы — Опса — Браслаў — Друя з падключэннем яе да магістралі Варшава — Вільнюс — Пскоў — Санкт-Пецярбург, што дазволіць паскорыць далучэнне багатага ў прыродна-ландшафтным і культурна-гістарычным планах раёна Беларусі да сістэмы буйных рэгіёнаў паўночнага ўсходу Еўропы.

***— На працягу якога тэрміну плануецца рэалізаваць ваш праект!***

— Ён разлічаны на пяцьдзесят год. Менавіта за такі перыяд магчымае поўнае змяненне эканамічнай структуры галін і дасягненне акупляемасці самых дарагіх праектаў, якія маюць марудны абарот капітала.

Каб дасягнуць усяго запланаванага, патрэбна адпаведная заканадаўчая база, якая пакуль яшчэ знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі. Толькі тады, калі ўсе неабходныя законы будуць прыняты, можна спадзявацца на рэалізацыю праекта, толькі тады да нас прыйдуць інвестары і Беларусь зможа трансфармаваць свой патэнцыял у рэальную турысцкую інфраструктуру, якая прынясе ёй (і інвестарам таксама) прыбытак. Аднак ужо зараз ствараецца інавацыйны фонд "Развіццё культуры, турызму, спорту "Залатое кола Беларусі", да ўдзелу ў якім запрошаны амаль усе грамадскія фарміраванні краіны. Фонд павінен забяспечваць практычнае ажыццяўленне задуманага. Да таго ж "Залатое кола Беларусі" ўключана ў спіс праектаў, што будуць прадстаўлены нашай краінай на выставе ў Гановеры ў 2000-м годзе.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**НА ЗДЫМКАХ: Нясвіж; музей пад адкрытым небам у Строчыцах.**

**Фота Яўгена ПАРФІЯНОВІЧА.**



# ІНТЭРНЕТ. ЖЫЦЦЁВАЯ ПАТРЭБА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

таянная. Аднак у Інтэрнеце карыстаюцца папулярнасцю якраз тыя серверы, якія пастаянна абнаўляюцца, прадастаўляючы карыстальніку свежую інфармацыю, і асноўная прыкмета якасці сервера — аператыўнасць, з якой гэта адбываецца.

Выклікае цікавасць і сервер, прысвечаны сродкам масавай інфармацыі. Сёння на ім выстаўлена 20 беларускіх газет, якія абнаўляюцца адпаведна перыядычнасці іх выхаду. Тут жа можна знайсці спасылкі на 250 рускамоўных выданняў, агенцтваў навін, радыёстанцый. Многія карыстальнікі гэтага сервера — суайчыннікі, якія эмігравалі за рубеж, а апошнім часам, калі інфармацыя аб Беларусі зноў стала "гарачай", узрасла колькасць карыстальнікаў з Расіі і іншых рэспублік.

Разглядаць сёння Інтэрнет як крыніцу атрымання даходаў заўчасна, аднак ва ўсім свеце ўжо зразумелі, што ён дазваляе эканоміць уласныя, іншы раз вельмі сур'ёзныя сродкі. Сведчаннем таго, што і ў Беларусі Інтэрнет перарастае рамкі пуцевадзіцеля па гарадах і вёсках краіны і пачынае "працаваць" на бізнес, а не толькі расказваць пра яго, можа служыць праект "www truck and cargo net". Нядаўна створаны па заказу прафесіянальных экспедытараў сервер дазволіў сістэматызаваць і каардынаваць дзейнасць перавозчыкаў грузаў. Сёння любы карыстальнік можа ўвайсці ў сервер, зарэгістравацца і выкарыстаць інфармацыйную базу для перавозкі сваіх грузаў ці прапанаваць уласны транспарт для перамяшчэння чужых. Як паказаў вопыт, зноў створаный базай даных карыстаюцца ўжо не толькі экспедытары з Беларусі, Расіі і Польшчы, але і простыя карыстальнікі.

З 1 кастрычніка 1997 года ў Беларусі адкрыўся першы віртуальны магазін фірмы "Дайнова", дзе карыстальнікі ўпершыню атрымаюць магчымасць набываць камп'ютэры і камплектуючыя, не выходзячы з офіса. Хаця сёння яшчэ рана гаварыць аб сур'ёзных здзелках, заключаных у Беларусі з дапамогай Інтэрнета, відавочна, што, калі не пачаць гэтую работу сёння, заўтра можна проста спазніцца.

Улічваючы, што развіццё Інтэрнета ў Расіі адстае ад агульнасусветнага прыкладна на год, можна меркаваць, што ў 1998 годзе тут пачнецца бум інтэрнет-камерцыі. Па ацэнках спецыялістаў, беларускі інтэрнетрынак адстае ад расійскага таксама на год, так што будзе зусім лагічным прагназіраваць падобныя працэсы ў хуткім часе і ў нас.

Відавочна, што сёння яшчэ далёка не ўсе ўяўляюць магчымасці, што прадастаўляюцца Інтэрнетам. Напрыклад — размаўляць з Амерыкай за два долары ў гадзіну, аплачваючы толькі кошт карыстання каналам. Увогуле ж расцэнкі за карыстанне Інтэрнетам — тэма асобая. Сусветная практыка паказвае, што цэны паступова самі сходзяцца да адзінага стандарту, які з ростам колькасці карыстальнікаў паступова зніжаецца. Кошт прадастаўлення доступу ў Інтэрнет у Маскве на 5 долараў даражэйшы, чым у Мінску. Аднак усе гэтыя цэны шакіравалі б любога амерыканца, для якога падобныя паслугі abышліся б разоў у дваццаць танней.

Некаторыя фірмы, зразумеўшы, што Інтэрнет ім жыццёва неабходны, аддаюць перавагу незалежнасці, набываючы для сябе асобны канал, арэнда якога складае 300—400 долараў у месяц.

Для праваўдарскіх кампаній Інтэрнет з'яўляецца вельмі выгадным бізнесам, паколькі буйныя першапачатковыя ўкладанні вельмі хутка сябе акупляюць і прыносяць вялікі прыбытак. Пры ўмовах сур'ёзных устойлівых інвестыцый, якія цалкам маглі б ажыццявіць сумесныя прадпрыемствы і замежныя партнёры, яго развіццё ў Беларусі магло б пайсці сямімільнымі крокамі. Дарэчы, па словах спецыялістаў, на сёння для вырашэння праблем далейшага развіцця ў рэспубліцы Інтэрнета ў якасці першапачатковага ўкладання патрэбна зусім не астранамічная сума 600 000 долараў ЗША. Аднак наўрад ці сёння знойдуцца жадаючыя ўкласці такія грошы ў развіццё дзяржаўных камунікацыйных сістэм у Беларусі і ці згодзіцца дзяржава расстацца са сваёй манаполіяй. І Інтэрнет тут хутчэй за ўсё чакае лёс усіх сур'ёзных пачынанняў — больш чым паступовае развіццё за кошт стараннаў энтузіястаў і марудны рух там, дзе ўвесь свет імкліва ідзе наперад.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ*

## «ВІЦЯЗЬ» ЗАВАЁЎВАЕ ЗАХОДНІ РЫНАК

Вытворчае аб'яднанне "Віцязь" заключыла першыя буйныя кантракты з некалькімі гандлёвымі заходнееўрапейскімі фірмамі на пастаўку сваіх тэлевізараў.

Як паведаміла намеснік генеральнага дырэктара аб'яднання па эканоміцы Данута Мурашкова, сёлета "Віцязь" набраў добры рабочы тэмп. Выпушчана за дзевяць месяцаў звыш 105 тысяч тэлевізараў, што амаль на 26 тысяч больш, чым за ўвесь мінулы год. Тэмп росту прадукцыйнасці працы ў калектыве складае больш за 140 працэнтаў, сярэдняя заработная плата павялічылася ў 1,6 раза. Атрымана за гэты перыяд 22 мільярды рублёў прыбытку, што дазваляе магутнаму аб'яднанню не перакладваць на плечы дзяржавы свае сацыяльныя праблемы, а самому ўтрымліваць шэсць дашкольных дзіцячых устаноў, піянерскі лагер, спорткомплекс, паліклініку, пяць інтэрнатаў.

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПРА: ПОГЛЯД НА МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

### РАННЯЯ МІГРАЦЫЯ З БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

У розных гістарычных умовах па эканамічных, палітычных, ваенных, рэлігійных і іншых прычынах насельніцтва беларускіх этнічных зямель перасялялася ў іншыя рэгіёны дзяржавы і за яе межы, ішло паступовае фарміраванне дыяспары (ад грэчаскага diaspora — рассейванне) як знаходжанне значнай часткі народа па-за краінай (тэрыторыяй) свайго паходжання.

Ранняя эміграцыя вызначалася, найперш, уцёкамі з ВКЛ тых, хто быў пакрыўджаны, незадаволены яго палітыкай ці праследаваўся. Полацкі князь Андрэй, які адмовіўся прысягаць Ягайлу, выехаў у 1377 годзе ў Маскоўскае княства, удзельнічаў у Кулікоўскай бітве. Туды ж падаўся ў 1408 годзе сапернік Вітаўта северскі князь Свідрыгайла Альгердавіч, многія чарнігаўскія і северскія баяры. Натуральнай эміграцыі з беларускіх зямель спрыялі створаныя ў Вялікім Княстве Літоўскім прававыя падставы. Князі, рыцары, шляхта і баяры Вялікага Княства Літоўскага маглі пакідаць яго "для лепшага щастья набытья" і абучэння ваеннаму майстэрству на падставе прывілея вялікага князя Казіміра ад 1447 года, замацаванага затым у Статуце 1529 года. Першымі актамі, якія пацвердзілі права ўсіх вольных людзей на выезд за мяжу, былі Віцебскі (1503 год) і Полацкі (1547 год) абласныя прывілеі, што вызначылі статус гэтых зямель у ВКЛ. Статуты 1566, 1588 гадоў прадугледжвалі магчымасць наведвання іншых зямель (акрамя "непрыяцельскіх") ужо вольнымі людзьмі "всякого стану" (усякага саслоўя) для лячэння, набыцця адукацыі, навучання рамяству, азнаямлення з ваеннай справай. Цяпер незадаволеныя палітыкай вялікага князя беглі з ВКЛ у "непрыяцельскія" краіны. Пасля няўдалага загавору 1481 года супраць вялікага князя Казіміра ў Маскоўскае княства перайшлі князі Фёдар Бельскі, Навасільскія, Адоеўскія, Варатынскія, Бялеўскія. У 1508 годзе туды выехаў князь Міхаіл Глінскі, які падняў бунт супраць вялікага князя Жыгімонта І. Шмат хто з беглых князёў набыў у Маскве значны ўплыў, знаходзіўся ў блізкім сваяцтве з велікакняжацкімі, а затым і царскімі родамі. Так, Алена Васільеўна Глінская стала жонкай вялікага князя маскоўскага Васілія III, рэгентшай рускай дзяржавы пры малалетнім сыне — вялікім князю Іване IV. Беглі і сяляне, гараджане, шмат вывозілася ў Маскоўскую дзяржаву захопленых у ходзе ваенных дзеянняў палонных.

З беларускіх зямель ВКЛ на Захад выязджала значная для таго часу колькасць людзей для набыцця адукацыі. У XV—XVI стагоддзях дзесяткі студэнтаў з ВКЛ вучыліся ва універсітэтах Балоньі і Падуі, Цюбінгена, Вітэнберга, Гейдэльберга, Лейпцыга, Лювена, Базеля, Кракава, Кёнігсберга. Многія з вольных людзей, якія выязджалі ў замежныя краіны, пакідалі там добрую спадчыну, спрыялі распаўсюджванню кнігадрукавання і асветы. Так, Францыск Скарына (1490—1551), купецкі сын з Полацка, здабыў вучоную ступень бакалаўра філасофіі ў Кракаве (1506 год) і доктара медыцыны ў Падуі (1512 год). Заснаваў у Празе першае беларускае выдавецтва і надрукаваў 23 кнігі Біблii на мове старажытнага беларускага пісьменства. Рабіў захады ў канцы 1520-х гадоў для арганізацыі кнігадрукавання ў Маскве, але быў там варожа сустрэты, найперш духавенствам. Ад 1535 года і да скону жыў у Празе і стаў там адным з заснавальнікаў старэйшага ў Цэнтральнай Еўропе батанічнага саду. Іван Фёдараў, друкарскі знак якога дае падставы меркаваць аб яго беларускім паходжанні, і беларус Пётр Мсціславец выпусцілі першую ў Маскоўскай дзяржаве друкаваную кнігу "Апостал" (1564 год), а затым два выданні "Часоўніка", па якому праводзілася пачатковае навучанне грамаце.

### ПАШЫРЭННЕ ПЕРАСЯЛЕННЯЎ У XVII—XVIII СТАГОДДЗЯХ

Значнае павелічэнне перасяленцаў на ўсход у канцы XVI—XVII стагоддзях вызначалася больш ранніх узмацненнем прыгоннай эксплуатацыі сялян у ВКЛ, а таксама нацыянальна-рэлігійнага ўціску ў Рэчы Паспалітай. Калі Маскоўская дзяржава, абвясціўшы сябе спадкаемцай Кіеўскай Русі (ужо Іван III назваў сябе "государем всея Руси"), пачала наступ на землі ВКЛ, то заахвочвала іміграцыю беларусаў як "исконно русских" для каланізацыі далучаных ёю на ўсходзе рэгіёнаў — прадастаўляла прытулак збеглым (а многім прыгонным і волю), аказвала матэрыяльную падтрымку, прымала іх на службу (як, дарэчы, і захопленых у палон). У XVII—XVIII стагоддзях беларускія землі часта станавіліся плацдармам жорсткіх баёў у войнах Расіі з Рэччу Паспалітай і іншымі краінамі, а іх жыхары масава вывозіліся ў глыбінныя рэгіёны імперыі. Двойчы толькі за адно стагоддзе (падчас вайны 1654—1667 гадоў і Паўночнай вайны 1700—1721 гадоў) насельніцтва спустошанай Беларусі скарачалася напалову: кожны другі жыхар загінуў ці трапіў у палон, быў выселены ў Расію. Туды, а таксама на Украіну бегла насельніцтва беларускіх зямель у галодныя, неўрадлівыя гады (1588, 1601—1602, 1656, 1696 і інш.), а таксама ратуючыся ад эпідэмій (іх у XVI—XVIII стагоддзях было больш за 80).

Выхадцы з беларускіх зямель і прымусова пераселеныя сяляне, рамеснікі, гандляры, шляхта спрыялі гаспадарчаму асваенню Паволжа і Сібіры, некаторыя з іх займалі значныя пасады на ваеннай і дзяржаўнай службе, сталі заснавальнікамі купецкіх родаў, абагачалі культурнае жыццё ў месцах свайго пражывання. Перасяленцы з беларускіх зямель і іх нашчадкі былі ў ліку пачынальнікаў геаграфічнага і этнаграфічнага вывучэння новых каланізаваных Расіяй рэгіёнаў, карэнных народаў Прыуралля, Сібіры, Чукоткі, Камчаткі (А. Камінскі-Длужык, Л. Сеніцкі і інш.). У другой палове XVII стагоддзя дзесяткі майстроў з Полацка, Віцебска, Оршы, Шклова, Магілёва і іншых гарадоў працавалі ў Збраёвай (Аружэйнай) палаце, аздаблялі церамы Крамля, Каломенскі палац, Навадзевічы, Данскі і Нова-Іерусалімскі (на Істры) манастыры. Яны прынеслі ў Рускую дзяржаву новыя рамёствы, свой адметны стыль, матывы і тэхніку разьбы па дрэву, вырабу шматколернай кафлі. Амаль цалкам калектыў першага рускага (прыдворнага) тэатра, які існаваў у 1672—1676 гадах, складаўся з беларусаў Мяшчанскай слабады, якая была створана з вывезеных у ходзе вайны 1654—1667 гадоў і падпарадкоўвалася пасольскаму прыказу. Вядома, што тут у 1685 годзе жыло больш за 600 беларускіх сем'яў.

Сімяон Полацкі (свецкае прозвішча Пятроўскі-Сітніяновіч Самуіл, 1629—1680) — з купецкай полацкай сям'і, ва ўзросце 34 гадоў пераехаў у Маскву. Тут ён арганізаваў Верхнюю друкарню ў Крамлі, дзе пад яго кіраўніцтвам выйшлі "Буквар" (1679 год) і іншыя кнігі. Па яго ініцыятыве адкрыта першая вышэйшая агульнаадукацыйная ўстанова, якая затым стала знакамітай Славяна-грэка-лацінскай акадэміяй. Сімяон Полацкі стаў пачынальнікам рускай сілабічнай паэзіі і драматургіі, выдатным прадстаўніком грамадска-палітычнай і філасофскай думкі свайго часу. Ілля Капіевіч (1651—1714) з Мсціслаўшчыны, зведаўшы ганенні езуітаў, выехаў у Галандыю, дзе адкрыў уласную друкарню. Тут па даручэнню Пятра І ён пераклаў, склаў, надрукаваў ці падрыхтаваў да друку каля 20 падручнікаў і кніг для абучэння моладзі. Капіевічам былі складзены і выдадзены першая ў Расіі арыфметыка, першыя дапаможнікі па замежных мовах, першы каляндар. Перакладзеная і выдадзеная ім першая ў Расіі кніга па навігацыі служыла дапаможнікам амаль стагоддзе.

### АСАБЛІВАСЦІ МІГРАЦЫІ Ў ПЕРШАЕ СТАГОДДЗЕ ПАСЛЯ АНЕКСІІ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ РАСІЯЙ

Далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імерыі ў ходзе трох падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII стагоддзя вызначыла палітычныя прычыны эміграцыі. Пры гэтым перасяленні набылі характар хваляў у адпаведнасці з развіццём нацыянальна-вызваленчага руху: боязь рэпрэсій царскага ўрада выштурхнула за мяжу ўдзельнікаў паўстанняў 1794, 1831, 1863 гадоў, а таксама прыхільнікаў аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага падчас расійскага паходу Напалеона ў 1812 годзе. Гэта былі ўжо дзесяткі тысяч эмігрантаў: дзяржаўна-палітычныя дзеячы, афіцэры, салдаты (пераважна шляхта), якія рассеяліся па свеце.

Далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імперыі паскорыла перасяленне беларусаў у цэнтральныя і паўднёвыя раёны, Сібір і на Далёкі Усход. Хаця цяпер гэта была ўнутрыдзяржаўная міграцыя, але за межы сваёй спрадвечнай тэрыторыі і ў іншаэтнічныя рэгіёны імперыі. Праз стагоддзе, паводле першага расійскага перапісу 1897 года, па-за тэрыторыяй 5-ці губерняў з пераважна беларускім насельніцтвам (Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай) пражывала амаль што палова мільёна беларусаў. І ў гэты час усходняя дыяспара папаўнялася шляхам гвалтоўнага высялення, найперш па палітычных матывах. З улікам нелаяльнасці шляхты да Расійскай імперыі ў паўднёвыя губерні была пераселена пасля паўстання 1831 года значная частка з 10 тысяч дваран, якія не змаглі пацвердзіць сваю прыналежнасць да гэтага саслоўя і былі пераведзены ў разрад дзяржаўных сялян-аднадворцаў. Тысячы ўдзельнікаў тайных таварыстваў патрыятычнай моладзі ў Літве і Беларусі (філаматаў, філарэтаў і інш.), нацыянальна-вызваленчых паўстанняў 1794, 1830—1831, 1863—1864 гадоў былі сасланы на катаргу і ў арыштанцкія роты, на пасяленне ў глыбінныя рэгіёны імперыі. Шляхам вымушанай і прымусовай міграцыі гвалтоўна вырываліся з жыцця народа інтэлектуальныя, свабодалюбівыя, патрыятычныя сілы, збядняліся яго творчыя магчымасці на Бацькаўшчыне, што сталася тут адной з прычын зацягвання працэсу нацыянальнага самаўсведамлення.

Затое ўраджэнцы беларускіх зямель аддавалі здольнасці і працу рук сваіх на карысць іншых народаў, пакідалі там добрую памяць аб сабе і Бацькаўшчыне. Сасланыя ў розныя куткі Расіі за ўдзел у паўстаннях, рэвалюцыйным руху праявілі сябе таленавітымі даследчыкамі прыроды, быту, традыцый, мовы народаў Сібіры, Крайняй Поўначы, Далёкага Усходу, Казахстана. Працы геолага, географа І. Чэрскага па Сібіры былі адзначаны залатымі медалямі Рускага геаграфічнага таварыства, як і фундаментальныя працы па мове і фальклору якутаў ссыльнага рэвалюцыянера-народніка Э. Пякарскага. В. Кавалеўскі стаў заснавальнікам у Расіі манголазнаўства, рэктарам Казанскага універсітэта.

У замежных краінах эмігранты гэтага часу — выхадцы з Беларусі — уключыліся ў вызваленчы, рэвалюцыйны рух на еўрапейскім і амерыканскім кантынентах (Т. Касцюшка, В. Урублеўскі, М. Судзілоўскі, З. Мінейка і іншыя), спрыялі развіццю навукі і культуры ў дзяржавах свайго пасялення. І. Дамейка стаў вядомым даследчыкам геалогіі і мінералогіі Чылі, рэктарам сталічнага універсітэта краіны, быў абвешчаны народным героем Чылі. К. Ельскі даследаваў фауну мала вывучаных на той час паўднёва-амерыканскіх краін — Гвіяны і Перу, адкрыў і ўпершыню апісаў не адзін новы від раслін і жывёл. Скульптар В. Дмахоўскі ў Парыжы стварыў помнік героям-паўстанцам, у ЗША — бюсты Т. Касцюшкі і Т. Джэферсана для кангрэса ў Вашынгтоне. А. Рыпінскі выдаў у Парыжы кніжку "Беларусь" (1840), а ў Лондане — беларускую баладу "Нячысцік" (1853). Ураджэнцы Беларусі былі ў ліку заснавальнікаў сельскагаспадарчых калоній у ЗША, якія паявіліся тут у другой палове XIX стагоддзя на аснове агульнай маёмасці і мелі на ўвазе даказаць жыццяздольнасць гэтай ідэі.

Каталіцкія святары беларускага паходжання, у тым ліку выкладчыкі Полацкай езуіцкай акадэміі, якія эмігрыравалі на пачатку XIX стагоддзя, спрыялі пашырэнню каталіцкай адукцыі ў ЗША (Б. Крукоўскі, Н. Корсак і інш.). Ф. Дзеружынскі, які жыў у ЗША ад 1821 да скону ў 1850 годзе, займаў там высокія царкоўныя пасады і стаў заснавальнікам школьнай адукацыйнай каталіцкай сістэмы. Закладзеныя ў першае дзесяцігоддзе XIX стагоддзя трывалыя сувязі езуітаў Беларусі і ЗША тлумачацца тым, што пасля забароны ў 1773 годзе папам рымскім ордэна езуітаў ён прадаўжаў існаваць у Расійскай імперыі на Беларусі. Каб захаваць сябе арганізацыйна, амерыканскія езуіты далучыліся да яго ў якасці Беларускай правінцыі Таварыства Ісуса (1805—1814).

### ПЕРШАЯ ХВАЛЯ МАСАВАЙ МІГРАЦЫІ НА РУБЯЖЫ XIX—XX СТАГОДДЗЯЎ

Масавая працоўная міграцыя беларускага насельніцтва ў іншаэтнічныя рэгіёны Расійскай імперыі (усходняй) і за яе межы (заходняй) пачалася на рубяжы XIX—XX стагоддзяў, і з гэтага часу набірае моц працэс складвання дыяспары як пражывання значнай часткі народа за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Міграцыйны рух сялянства набыў сталы характра з 80-х гадоў XIX стагоддзя, а масавасць — пасля рэвалюцыі 1905—1907 гадоў у сувязі з тымі зменамі ў грамадскім і сацыяльна-эканамічным развіцці, якія яна выклікала. Да першай сусветнай вайны па эканамічных прычынах толькі ў Сібір з Беларусі перасялілася больш за 700 тысяч, а за межы Расіі — 500—600 тысяч чалавек пераважна ў ЗША, Канаду, Бразілію, Аргенціну, заходнееўрапейскія краіны.

Асноўнымі прычынамі рассейвання беларусаў па-за сваімі этнічнымі межамі сталі працэсы больш актыўнага фарміравання новага гаспадарчага ўкладу і рыначных адносін, расслаенне і абеззямельванне сялянства, фарміраванне сусветнага рынку працоўнай сілы, попыт на яе на еўрапейскім і амерыканскім кантынентах, магчымасць больш высокага заробку. Масаваму выезду сялян у іншыя рэгіёны Расіі ў пошуках вольнай ці больш таннай зямлі спрыяла хуткае развіццё чыгуначнай сеткі як на тэрыторыі Беларусі, так і імперыі ў цэлым.

Палітыка царскай Расіі ў адносінах да міграцыі з этнічных беларускіх зямель вынікала з афіцыйнага непрызнання беларусаў як асобнага народа. У сувязі з гэтым заахвочваліся перасяленні на ўсход дзяржавы з мэтай каланізаваць гэтыя абшары шляхам засялення іх "рускім элементам", да якога адносілі беларусаў-праваслаўных (беларусаў-католікаў залічвалі да палякаў). Выезд жа за мяжу разглядаўся як фактар паслаблення "карэннага рускага насельніцтва", павелічэння кошту мясцовай рабочай сілы. Таму на дзяржаўным узроўні эміграцыя стрымлівалася, адсутнічала адпаведнае заканадаўства, імігранты ў новых краінах не мелі прававой, маральнай, матэрыяльнай падтрымкі сваёй радзімы.

За мяжой беларускія перасяленцы папаўнялі шэрагі некваліфікаваных работнікаў. У ЗША яны працавалі пераважна ў такіх цяжкіх і небяспечных вытворчасцях, як вугальная, сталеліцейная, будаўнічая. У Аргенціне і Бразіліі наймаліся на сезон ці абжывалі малазаселеныя, аддаленыя землі. Дарэчы, у Канадзе, Бразіліі перасяленцы маглі разлічваць на кавалак зямлі. Мелі імігранты цяжкія бытавыя ўмовы і параўнальна нізкую аплату працы, але якая была ў 2—3 разы вышэйшай, чым у Расіі. "За морам можна дайсці да чагось толькі пры вельмі цяжкай працы. Кожны грош, які там адкладаецца, купляецца толькі вялікай працай, хрэсціцца крывавым потам", — папярэджвала віленскае бюро Таварыства апекі над эмігрантамі ў сваім выданні "Рады для эмігрантаў, каторые едуць у Амерыку, а также размовы беларуска-англіцкіе" (Вільня, 1912).

Найбольш характэрнымі асаблівасцямі першай хвалі масавага перасялення беларускага насельніцтва з'явілася больш позняе (у параўнанні з суседнімі народамі) яго ўключэнне ў міграцыйны рух як на абсягах імперыі, так і за яе межы; высокая яго інтэнсіўнасць (у 1896—1915 гадах 5 губерняў з пераважна беларускім насельніцтвам далі 85 працэнтаў усіх перасяленцаў з раёнаў нечарназёмнай паласы); арыентацыя на рэзміграцыю — звычайна ехалі за мяжу прыдбаць грошы для пакупкі зямлі, абзавядзення гаспадаркай, да таго ж расійскія законы не прадугледжвалі выхаду з падданства і абавязвалі вяртацца праз 5 гадоў пад пагрозай пакарання. У сувязі з адмоўным стаўленнем дзяржавы і мясцовага кіраўніцтва да выезду сялян, складанасцю працэдуры і дарагавізнай атрымання пасведчанняў на выезд і афармлення пашпартоў існавала значная нелегальная эміграцыя (асабліва на сезонную працу ў бліжэйшыя еўрапейскія краіны).

Нацыянальны ўціск беларускага народа ў складзе Расійскай імперыі, абумоўленая многімі прычынамі незавершанасць станаўлення беларускай нацыі, практычная адсутнасць за мяжой нацыянальнай інтэлігенцыі вызначылі паскораную асіміляцыю мігрантаў у параўнанні з суседнімі народамі.

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

(Працяг будзе).

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# ЗЬМІЦЕР ПАЎЛОЦКІ — ПЕРШААДКРЫВАЛЬНІК АЛЯСКІ

У гэтым годзе сусветная геаграфічная грамадскасць адзначае 250-годдзе з дня смерці выдатнага падарожніка — першаадкрывальніка Аляскі і першага даследчыка Чукоткі — Дзмітрыя Паўлуцкага (Зьміцера Паўлоцкага).

Землепраходцамі Сібіры і Далёкага Усходу былі казакі, якія знаходзіліся на царскай службе за Каменным Поясам — Уралам. Сярод іх былі шматлікія выхадцы з Беларусі — палонныя Лівонскай вайны (1558—1583) і руска-польскіх войнаў (1632—1634, 1654—1667 і інш.), якія прысягнулі на вернасць маскоўскаму прастолу; потым ссыльныя паўстанцы пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі і К. Каліноўскага. Многія з іх сталі выдатнымі першапраходцамі неабсяжных прастораў Сібіры і Далёкага Усходу — у першай палове XVIII стагоддзя: Іван Казырэўскі і Іван Яўрэінаў (першаадкрывальнікі Курыльскіх астравоў), Дзмітрый Паўлуцкі і інш.

У пачатку XVIII стагоддзя Расія палічыла неабходным накіроўваць за Урал вялікія экспедыцыі з шырокімі паўнамоцтвамі — не толькі дзеля геаграфічных адкрыццяў, але і для вырашэння палітычных і эканамічных пытанняў. Па ўказу Сената ад 3 мая 1727 года з Табольска на Камчатку была адпраўлена грунтоўная экспедыцыя (400 казакаў і 10 матросаў) на чале з капітанам драгунскага Табольскага палка Д. Паўлуцкім. Гэтая экспедыцыя на Далёкі Усход мела больш шырокія задачы, чым экспедыцыя Берынга — у яе склад былі ўключаны штурман Я. Генс, падштурман І. Фёдараў, геадэзіст М. Гвоздзеў, маркшэйдэр і рудазнавец С. Гардэболь, ботавы чапляднік І. Спешнеў (для пабудовы суднаў у Ахоцку). Адпраўляючы Берынга на Камчатку, Пётр І лічыў, што ён "только одно известие, соединяется или не соединяется Америка, привезет, о интересе настоящем от него ожидать нечего". Таму Пётр І шукаў нагоды, якім бы чынам туды "для сыскания новых земель инах и полезных дел кого возбудить".

Асноўнай задачай экспедыцыі Паўлуцкага было вывучэнне звестак аб "Вялікай Зямлі" (Алясцы. — **В. Я**) і, пры наяўнасці абнадзейваючай інфармацыі, адкрыццё гэтай Terra incoqnita. Паўночна-ўсходні край Сібіры, які амываецца Ледавітым і Ціхім акіянамі, зрабіўся больш вядомым з часу заснавання астрога на рацэ Анадыр (1649). І да пачатку XVIII стагоддзя звесткі аб Алясцы становяцца ўсё больш "адчувальнымі", прыцягальнымі. Сібірскія казакі і прамыслоўцы (Атласаў, Толдзін, Ельчын, Нагібін, Кузакоў, Салтыкоў і інш.), якімі кіравала непахісная цвёрдасць духу, вызначаліся рашучай прадпрымальнасцю, але ў іх не хапала сродкаў і дастатковых ведаў для ажыццяўлення плавання з Анадырскага астрога на ўсход.

У жніўні 1729 года ўжо з Якуцка Паўлуцкі накіраваўся ў Анадыр для высвятлення абставін гэтай задачы і арганізацыі экспедыцыі на "Вялікую Зямлю" — Аляску. Генс, Фёдараў і Гвоздзеў выехалі ў Ахоцк для пабудовы суднаў. Уласнымі сіламі яны пабудавалі бот "Усходні Гаўрыіл" і атрымалі ў сваё распараджэнне існуючы бот "Святы Гаўрыіл". У верасні 1730 года "Святы Гаўрыіл" пад камандай Гетса і "Усходні Гаўрыіл" пад камандай Фёдарава выйшлі з Ахоцка да Камчаткі. "Усходні Гаўрыіл" разбіўся ля яе берагоў, а "Святы Гаўрыіл" удала дасягнуў Бальшарэцка. Прыняўшы на борт каманду "Усходняга Гаўрыіла", "Святы Гаўрыіл" вясной 1731 года абагнуў мыс Лапатку і прыбыў у Ніжне-Камчацк. Тут Генс вымушаны быў затрымацца: пачалося паўстанне камчадалаў і спатрэбіўся ўдзел каманды "Святога Гаўрыіла" ў абароне Ніжне-Камчацкага астрога (у баях з чукчамі загінуў якуцкі казачы галава Афанасій Шастакоў, саратнік Паўлуцкага па экспедыцыі на Аляску, чалавек моцнай волі і вялікага практычнага вопыту). Пасля ўціхамірання камчадалаў "Святы Гаўрыіл" па загаду Паўлуцкага выйшаў у канцы ліпеня 1732 года з вусця ракі Камчаткі і 3 жніўня дасягнуў вусця ракі Анадыр, на яго борце знаходзілася 29 чалавек.

Для экспедыцыі на Аляску Паўлуцкі распрацаваў праграму навуковых даследаванняў, якая была выкладзена ў яго ордэры ад 1 мая 1732 года. Яна вызначалася шырынёй і смеласцю задумы, глыбокім разуменнем значэння рыхтуемай экспедыцыі. Усе ўдзельнікі экспедыцыі разумелі, што давядзецца вытрымаць вялікія выпрабаванні: трэба было ісці нікім не разведаным і не даследаваным шляхам, мараплаўцы не мелі самай элементарнай карты раёна маючага адбыцца плавання. У склад экіпажа дадаткова ўключылі вопытнага марахода Кандрація Машкова, удзельніка першай экспедыцыі Берынга. 15 жніўня 1732 года бот "Святы Гаўрыіл" выйшаў з Анадыра на ўсход і за 5 дзён плавання абследаваў астравы Дзіаміда; 21 жніўня "Святы Гаўрыіл" са спадарожным ветрам дасягнуў бліжэйшага пункта "Вялікай Зямлі" — Аляскі (мыс Прынца Уэльскага на паўвостраве Сьюард), супраць "Анадырскага носа" (Чукоцкага мыса. — **В. Я.**). На беразе мараплаўцы заўважылі юрты, размешчаныя ўздоўж узбярэжжа на адлегласці да паўтары вярсты адна ад адной. Нарэшце маракі апынуліся на доўгачаканай зямлі, аб якой так многа хадзіла чутак — на картах яна была ў выглядзе белай плямы. Землепраходцы даведаліся аб раслінным і жывёльным свеце "Вялікай Зямлі" — гэтыя звесткі мелі вялікае навуковае значэнне.




Экспедыцыя Паўлуцкага была крокам наперад у параўнанні з першай экспедыцыяй Берынга. Калі Берынг прайшоў праліў з поўдня на поўнач, то "Святы Гаўрыіл" перасёк гэты праліў з захаду на ўсход. Пры гэтым быў вызначаны час, неабходны для плавання ад Чукоцкага мыса да Аляскі. На жаль, захавалася мала звестак пра гэтае выдатнае падарожжа, якое скончылася адкрыццём паўночна-заходніх берагоў Паўночнай Амерыкі — афіцыйны разгляд вынікаў падарожжа на Аляску надоўга затрымаўся. Паўлуцкі пасля завяршэння экспедыцыі на Аляску быў адазваны ў Якуцк (1733), потым некалькі гадоў ужо ў чыне маёра служыў на Камчатцы і зноў вярнуўся ў Якуцк на пасаду ваяводы. Па дарозе ў Якуцк ён цудам выратаваўся ад турмы: у Ахоцку (1741) на вяселлі сваёй пляменніцы і Сцяпана Крашаніннікава (першага географа-акадэміка Пецярбургскай АН, 1750) ён нядобра "выказаўся" ў адрас Сінода. Відаць, у сувязі з гэтым, ледзь заняўшы ваяводскую пасаду ў Якуцку, ён амаль адразу ж (у пачатку 1742) адправіўся з атрадам казакаў на Чукотку ўціхамірваць ваяўнічых чукчаў, якія аднавілі свае набегі на падданых Расіі — юкагіраў і каракаў. І, відаць, наўмысна ён надоўга затрымаўся ў Анадырскай тундры. Яго атрад прайшоў 2 тысячы вёрст уздоўж узбярэжжа Усходне-Сібірскага мора ад Чаунскай губы да Анадырскага астрога, неаднаразова перасякаючы Чукоцкі паўвостраў па розных маршрутах. У сакавіку 1747 года ў баі з чукчамі Паўлуцкі загінуў. Іван Фёдараў памёр неўзабаве пасля вяртання з плавання на Аляску (1733 год; пахаваны як мяркуецца, у Ніжне-Камчацку); Генс і Гвоздзеў у 1735 годзе былі арыштаваны па фальшываму даносу і пасаджаны ў турму Ахоцкага астрога.

Між тым, у 1738 годзе Адміралцейства нарэшце ацаніла значэнне экспедыцыі Паўлуцкага. І для таго былі важкія падставы па палітыка-эканамічных меркаваннях; характэрна ў сувязі з гэтым, што экспедыцыя В. Берынга (1733—1741) адкрыла Паўночную Амерыку пазней і далёка ад Камчаткі, значна больш на поўдзень ад Аляскі — з боку Алеуцкай грады.

У Табольск з Адміралцейства было паслана прадпісанне накіраваць у сталіцу бартавыя журналы і вопісы па экспедыцыі Паўлуцкага, але к таму часу Генс ужо памёр (1737 год, у турме Ахоцкага астрога), а Гвоздзеў, хаця і быў вызвалены з турмы, палічыў за лепшае маўчаць. Весткі аб экспедыцыі 1732 года на Аляску былі паведамлены Ахоцкай канцылярыі толькі ў красавіку 1741 года. Калі "справа" паступіла ў Якуцкую канцылярыю, у Ахоцк было накіравана ўказанне (1743) звязацца з В. Берынгам з нагоды "Вялікай Зямлі" (Аляскі), але капітана-камандора ўжо не было ў жывых (пахаваны на Камандорскіх астравах у 1741 годзе). Берынг прайшоў паміж Чукоткай і астравамі Дзіаміда і з-за туману Аляскі не бачыў.

Удзельнікі экспедыцыі Паўлуцкага былі першымі еўрапейцамі, якія дасягнулі паўночна-заходняй часткі Паўночнай Амерыкі. Доўгі час іх звесткі аб Алясцы ў раёне Берынгава праліва былі адзінымі (назву праліву даў Джэймс Кук у 1778 годзе, які не ведаў аб праходзе цераз праліў С. Дзежнева яшчэ ў 1648 годзе). Несумненна, удзельнікамі экспедыцыі Паўлуцкага была складзена карта плавання ўздоўж мыса Прынца Уэльскага на Алясцы. Аднак аб гэтым мала каму было вядома, акрамя афіцыйных колаў Расіі, што пацвярджае "Генеральная карта Расійскай імперыі" (1746), складзеная пры Марской акадэміі з улікам звестак Паўлуцкага. У легендзе да гэтай карты адзначаецца: "Зямля, пакладзеная супраць Чукоцкага ўсходняга вугла на ўсход, пакладзена з карты геадэзіста Гвоздзева" (да гэтага часу гэтая карта не знойдзена). Узбярэжжа Аляскі было даследавана больш дэталёва праз многія гады (Г. Сарычаў, 1791; О. Кацэбу, 1815—1816; Р. Амундсен, 1903—1906).

Вялікія заслугі Паўлуцкага і ў геаграфічных даследаваннях Чукоцкага паўвострава. У выніку яго першага паходу з Якуцка ў Анадыр (1729—1731) былі атрыманы дакладныя звесткі аб геаграфіі Чукоткі — араграфіі, гідраграфіі і этнаграфіі, пра што сведчыць карта з адлюстраваннем маршруту (у атрадзе было 215 казакаў, да якіх потым былі далучаны 160 каракаў і 60 юкагіраў); падрабязнае апісанне гэтага па сутнасці геаграфічнага маршруту ўпершыню даў гісторык Г. Мілер (1758). Маршрут Паўлуцкага быў такім: рака Анадыр і яе прыток — рака Белая, потым на поўнач да Ледавітага акіяна, далей на ўсход і паўднёвы ўсход уздоўж узбярэжжа да Ціхага акіяна і, нарэшце, уздоўж заліва Крыжа ў Анадырскі астрог. Даследаванні ўнутранай часткі Чукоцкага паўвострава былі працягнуты Паўлуцкім і ў час ваенных паходаў 1744 і 1746 гадоў. У час першага паходу шлях праходзіў з Анадыра да заліва Крыжа, адсюль "гарыстымі і камяністымі мясцінамі" да Мечыгменскай губы, потым берагам мора да Калючынскай губы і назад у Анадырскі астрог. Звесткі ўдзельнікаў гэтага паходу (сотнікі Папоў, Ніжагародаў, Паўлаў), паведамленыя ў 1763 годзе, сведчаць: "Прад'яўленая ж Чукоцкая зямля ўся балотная, камяністая і вельмі купінаватая і мокрая, ніякага лесу і травы, акрамя моху, няма". У час другога паходу (1746) атрад Паўлуцкага накіраваўся на поўнач ад Анадыра да вусця ракі Чаун і потым на ўсход у бок Калючынскай губы, адкуль назад у Анадыр.

На карце Паўлуцкага адлюстравана вялікая колькасць геаграфічных звестак: аб прыбярэжнай паласе (ад ракі Калымы да ракі Алюторы) і аб глыбінных раёнах (басейны ракі Анадыра, Чауны, Амгуэмы і інш.).

Вялікія геаграфічныя адкрыцці расіян на поўначы Ціхага акіяна ўжо больш двух стагоддзяў прыцягваюць увагу гісторыкаў і географаў усяго свету. Расійскія мараходы даказалі, што Азія аддзяляецца ад Амерыкі пралівам (Папоў, Дзежнеў), адкрылі Курыльскія (ліцвін Казырэўскі) і Алеуцкія (Чырыкаў) астравы, Аляску (ліцвін Паўлоцкі). Слаўныя імёны землепраходцаў і мараплаўцаў таго перыяду ў першую чаргу звязваюць з І і ІІ камчацкімі экспедыцыямі В. Берынга. Аднак Дзмітрый Паўлуцкі па праву ўвайшоў у гісторыю вялікіх геаграфічных адкрыццяў.

Доўгі час імя Паўлуцкага было забыта. Пра яго ўспомнілі цяпер, у год 250-годдзя з дня яго смерці. Беларускі народ мае права ганарыцца сваім суайчыннікам — выдатным землепраходцам першай паловы XVIII стагоддзя Дзмітрыем Паўлуцкім.

**Валерый ЯРМОЛЕНКА,**
**доктар геаграфічных навук.**

## АМЕРЫКАНСКІ МІЛЬЯНЕР СА СЛОНІМА

Упершыню родную Беларусь наш зямляк з Амерыкі Джон (Іван) Вішнеўскі наведаў пяць гадоў назад. Пра яго візіт у Мінск паведамляла тады рэспубліканская прэса. "Я думаў, што прыеду ў несучаснае, бруднае мястэчка. А калі ўбачыў родную Беларусь, то быў проста ўражаны. Я зразумеў, што любоў да Радзімы застанецца ў маім сэрцы да самай смерці", — гаварыў тады Іван Андрэевіч, які нарадзіўся ў вёсцы Нівы Слонімскага раёна (цяпер такой вёскі не існуе). Але гэта быў не просты эмігрант, які ад настальгіі і тугі завітаў на Бацькаўшчыну. Наш зямляк са Слонімшчыны — кіраўнік буйной амерыканскай фірмы "NDII" па інвестыцыях і продажу нерухомасці, мільянер.

У свой час сям'я Вішнеўскіх эмігрыравала ў ЗША. Там наш зямляк і стаў бізнесменам. Яго фірма мае штогадовы абарот 165 мільёнаў долараў. Яна займаецца таксама будаўніцтвам офісаў і жылых будынкаў.

Іван Вішнеўскі яшчэ і пісьменнік. Сем яго кніг, выдадзеных у Штатах, сталі бестселерамі. Тэма — амаль "па Карнегі": як максімальна выкарыстаць свае творчыя магчымасці. Адна з кніг была надрукавана ў Маскве на рускай мове, а ўвесь прыбытак ад продажу пайшоў на патрэбы нашай рэспублікі.

Наш зямляк-мільянер меркаваў "прывесці" ў Беларусь буйны бізнес Штатаў, каб укласці мільярды долараў у беларускую эканоміку. Нават быў распрацаваны план будаўніцтва ў Мінску гасцініц, офісаў і катэджаў. Была размова і пра родны Слонім. Але хуткія палітычныя змены і нестабільнасць у Беларусі насцярожылі Івана Вішнеўскага. Усе планы і задумы так і засталіся няздзейсненымі. Ды верыцца, што не ўсё яшчэ страчана. Бо і ў Слоніме ёсць што будаваць і рэстаўрыраваць, а не толькі ў Мінску.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**



**Пры ўездзе ў горад Сянно прыцягвае ўвагу унікальны помнік экалогіі. Тут б'е крыніца, адкуль бяруць ваду не толькі мясцовыя жыхары, але і многія прыезджыя.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## *УЛАСНАЯ ПЕСНЯ АКТРЫСЫ ТАЦЦЯНЫ АЛЯКСЕЕВАЙ*

# ГУК СТРУНЫ, ШТО ВОСЬ ЗАРАЗ ЛОПНУЛА



Калі я чую яе імя — актрыса Таццяна Аляксеева, — калі хтосьці з яе каляжанак прыгадвае "нашу Таню", калі яна сама паўстае ў маёй памяці, дык раптоўна ўспамінаю выпадак, сведкам якога выпала мне быць. Паблізу Купалаўскага тэатра, ля фантана "Амур і Лебедзь", — нібы на ростані — акцёры разыходзяцца хто куды, відаць, пасля рэпетыцыі. Гоман, выбухі смеху, развітальны ўзмах рукой у карункавай пальчатцы: "Бывай... да пабачэння... патэлефануйце мне..." Вясёлае ажыўленне хіліцца да спаду ў той капэле, дзе я затрымаўся.

Раптам чую Танін голас. Прыцішаны. І — рашучы. "Не, усё-такі цалаваць яго я не буду!"

Каго? І з чаго яна ўзяла, быццам нехта чакае яе пацалунка?

Азіраюся. Прыдумваю экспромтам жарцік накшталт таго, што спыніць фантан красамоўнай балбатні зручней за ўсё, канешне, пацалункам. Ды ніхто ў нашай капэле нібы і не чуў тую пагрозу: маўляў, не будзеш цалаваць — і годзе! Не наш клопат. Мабыць, і гэтая прыгажуня з тонка падмаляванымі павекамі, і той франт у стракатай кашулі з гальштукам-бабачкай, і маўклівая дамачка ўсё яшчэ ў хлапечай прычосцы, ад якой актрысы на ролі інжэню-травесці доўга не адмаўляюцца, — усе яны ведаюць, каго мае на ўвазе Таня, каго не будзе цалаваць...

Мне аднакроць і снілася тая сцэна "ля фантана". Таня ў ссунутым набакір сонечна-жоўтым берэце, з-пад якога выбіваецца хваляй бурштынавы локан. Пальцы сціскаюць выштукаваны бурштынавы ж муштук з даўжэзнай танкаватай цыгарэтай "Калібры". Ага, калі то "Калібры", значыцца я сню восень якога шэсцьдзесят пятага, не пазней, года.

Так, так, гэта тая пара ў артыстычнай біяграфіі Таццяны Аляксеевай, калі мінскія тэатралы залічылі яе ў плеяду сваіх улюбёнак. Яе ўжо засыпалі кветкамі ўзрушаныя гледачы, удзячныя ёй за таленавітае ўвасабленне на славутай Купалаўскай сцэне каларытных вобразаў: шэкспіраўская Джульета і шылераўская Луіза Мілер, горкаўская Верачка Каламійцава ("Апошнія") і чэхаўская Алена Андрэеўна ("Дзядзька Ваня"), гераіні А. Астроўскага Паліна і Алена ("Даходнае месца" і "Жаніцьба Бялугіна"), прыгажуня Мелі ў драме "Ліса і вінаград" Г. Фігейрэда і здрадлівая Жонка ў "Забытым усімі" Н. Хікмета... І яшчэ была чарада розных студэнтак і маладых калгасніц, камсамольскіх энтузіястак і звычайных дзяўчат, якіх тэатр выводзіў у святло рампы, каб паказаць аблічча нашай сучасніцы. Дакладней — тагачасніцы. Савецкай.

Яе жаночыя натуры з'яўляліся перад намі акрэслена адметнымі. То натхнёна ўзрушанымі, то прафесійна добрасумленнымі і стараннымі. Яе хвалявала сама магчымасць выступаць разам... Не, лепш я паспрабую перадаць гэта словамі самой Тані: "Магчымасць дыхаць разам, плакаць разам... смяяцца... маўчаць разам... Быць разам з Лідзіяй Ржэцкай і Ірынай Ждановіч, з Вольгай Галінай і Верай Пола, з Раісай Кашэльнікавай і Стафаніяй Станютай..." Але яна творча ўвайшла ў ансамбль бліскучых актрыс лепшай беларускай сцэны. І не згубілася ў шаноўнай грамадзе, не страціла сваёй акцёрскай уласцівасці. Заспявала і праспявала (за сорак гадоў дзейнасці на тутэйшых падмостках!) сваю ўласную песеньку. Пералівістую. Звонкую. Меладыйную.

Якія маляўнічыя натуры выводзіла яна на сцэну! Хітравата гарэзлівую паненку і крывадушна зламысную ханжу. Дураслівую свавольніцу і прастакавата даверлівую, праўда, надзеленую сімпатыяй і гумарам — не больш — малодку. Распешчаную балаўніцу і вонкава зваблівую хіжую інтрыганку. А якімі вытанчана далікатнымі атрымліваліся ў яе арыстакратычныя па духу дамы, вуаль на якіх прыхоўвала не адно толькі іхні твар.

Ды і я ў маім уяўленні па сённяшні дзень нібы праз сон успрымаю яе, Таню Аляксееву, прыгожай жанчынай з нейкімі дзіўнымі звычкамі і манерамі. Ну падумайце самі, вось яна зусім звычайна ветлівая, гаваркая, уважлівая да субяседніка, і раптоўна гэтая асоба выпраменьвае штосьці вытанчанае, адчувальна высакароднае, тое шляхетнае, што арганічна ўбірае ў сябе пачуццё праўдзівай чэсці і непадкупнай чалавечай годнасці. Нат паліць яна сваю цыгарэту з гэтай экзатычна птушынай назвай "Калібры" нейкім сваім, я сказаў бы, аляксееўскім чынам — з вольным размахам рукі і загадкава бліскучым прыжмурам правага вока. Быццам то ў балетным выгібу яе запясця і сапраўды прывідна туліцца рэдкі птах, ад якога і завіваецца ў кальцо лёгкадымны струменьчык.

Той-сёй з чытачоў, вядома, пацісне плячыма: што за дзівосы ён нам вярзе? Табакурыха паліць цыгарэту, хай і экзатычную. Натуральна, прыжмурвае вока, бо цыгарэта ж дыміць. Што тут незвычайнага, адкуль тое захапленне — "шляхетная, высакародная"!? Праўда ваша, адказваю гэтаму цвярозаму недаверку: у тым, што яна рабіла, ані нічога незвычайнага не было... **Як** яна тое рабіла, **як** раскурвала, мне бачыцца і ў сне маім як адно з цудоўных з'явішчаў сапраўды мастацкай пластыкі ў суладдзі з такім па-жаноцку мілым гумарам. Цьфу, цьфу, курыць табакі — шкодна, гэта бясспрэчна!..

Калі я сню яе і яна зноў і зноў паўтарае калісьці пачутае мною наяве ў скверы ля Купалаўскага тэатра: "Не, усё ж такі цалаваць яго я не буду!", дык гэта мяне не дзівіць. Тое адрасавалася Таняю партнёру па спектаклю, які яны тады рэпеціравалі. Так артыстка і пасля выхаду ў "цывільны натоўп" доўжыць несціханы роздум пра перажыванні сваёй гераіні і ўсё яшчэ прыслухоўваецца да сябе, прымерваецца, якім чынам ёй рухам ці голасам выявіць патаемныя пакуты або радасць той жанчыны, якой ёй наканавана быць там, на сцэне. Таму яна можа спыніцца пасярод тратуара і нібы ні к сялу, ні к гораду ляпнуць уголас нештачка гэтакае... Пра пацалунак, напрыклад. І гэта якраз тады, калі чуткі і плёткі, у якіх фігурыравалі яна — "Яна!" — Таня Аляксеева, і ён — "Ён!" Не прыводжу яго найменне. У калятэатральных людзей ёсць жа завядзёнка звязваць імя актрысы, якая іграе Джульету, з імем таго, хто — Рамэо, а Поліньку — з Жадавым, Клеапатру — з Антоніем, Луізу Мілер — з Фердынандам фон Вальтарам..."

Калі мы пасябравалі і ў мяне з'явілася права задаваць ёй правакацыйныя пытанні, я закрануў і гэтую "сферу" артыстычнага жыцця. Маўляў, ці абыякава для прафесійна сталай актрысы, што за партнёр выступае з ёю ў любоўных сцэнах, што за мужчына паўстае перад ёю як яе выбраннік на якіх дзве вячэрнія гадзіны? О-о-о... І сёння чую тое Танева "О-о-о..." Яна ўспомніла іспанца Кальдэрона, у адной з п'ес якога некалі іграла: "О рыцар шанаблівы, табе калені дадзены, каб змог ты ўкленчваць перад Богам, перад каханай, — і больш ні перад кім!" Таня асабліва пранікнёна, стараючыся захаваць амаль дзяжурную інтанацыю адказу на маё службовае пытанне цікаўнага газетнага пісакі, прамовіла, што такі партнёр, з каленямі рыцара... Я перапытваў не адзін раз, а ці сустракаюцца наогул цяпер, у нашыя часы, рыцары сярод яе калег, і Таня шчыра сцвярджала: "Але... ёсць... сустракаюцца..." Дык вось такі партнёр абуджае ў актрысе пачуццё, якое не падлягае лагічнаму тлумачэнню, — ім вызначаюцца слова і рух, міміка і паўзы, нібы акрыленыя нейкім чароўным, пажаноцку інтуітыўным памкненнем насустрач жаданаму і чаканаму ёю...

Той з нас, хто бачыў Таццяну Аляксееву ў спектаклях, дзе яе партнёрамі былі выдатныя купалаўцы — Барыс Платонаў, Леанід Рахленка, Барыс Кудраўцаў, Павел Малчанаў, Барыс Уладамірскі, Віктар Тарасаў, Раман Філіпаў, мабыць, пацвердзяць, што і сапраўды дуэтныя сцэны з імі яна іграла з творчым замілаваннем, я нават падкрэсліў бы — з творчай асалодай. Ды нейкі нячысцік мяне падштурхоўваў задаваць ёй не зусім сціплыя пытанні. Я рытарычна абвяшчаў, што акцёр — ён відачын... камедыянт... прытвора... Якім хочаш закаханым прыкінецца — камар носу не падточыць. Ды і наогул наша эпоха відавочна даказвае: мужчына — істота, што ці не на кожным кроку парушае запаведзі і само ўяўленне аб дабрачыннасці, бескарыслівым служэнні людзям, пашаноце да жанчыны. І тэатральнае відовішча з шыкоўна апранутымі рыцарамі ды альтруістамі — гэта як той святочны бохан з разынкамі, які дабрадзей-уціхамірнік раскрышвае рабам дзеля ўцяшэння.

Так гаварыў я, хоць зусім нядаўна сам бачыў, як навідавоку ў прахожых, у тым жа скверы "ля фантана", зграбны Уладзімір Караткевіч расчулена апусціўся перад актрысай на калена і працягнуў ёй свой паэтычны зборнік "Мая Іліяда", на якім бялелі ў зялёным гронкі ландышаў, і прамовіў: "Мяне ўзрушылі вы ўчора.." А ўчора іграўся спектакль "Начное дзяжурства" А. Дзяпендзіка, і там Т. Аляксеева... не выходзіць на сцэну. Толькі чуецца голас Жанчыны ў тэлефоннай трубцы. Чуецца споведзь асуджанай сваёй хваробай на самае страшнае і ледзь улоўнае спадзяванне на ратунак. І Таня сказала: "Я ж і не выходжу нават пакланіцца на апладысменты!" — на што Валодзя выдыхнуў: "Голас залаты зачароўвае, а ў вас ён дзевяцьсот пяцьдзесят восьмай пробы..."

Пачуўшы сентэнцыю пра "бохан для рабоў", Таня абурылася не на жарт. Я спаслаўся на старажытных мудрацоў Рыма: гэта ж яны гэтак — пра тэатральнае відовішча, не я!

Зараз я паспрабую прывесці сказанае Таняй мне ў адказ. Строга і шчыра, быццам яна аб тым думала даўно, не адзін год, і сёння вымаўляе тое ў голас упершыню, вымавіла:

— Калі б гэта было вашым уласным перакананнем... наконт "бохана для рабоў"... я магла б лічыць вас... ха-ха-ха... пачвараю... Тысячу разоў паўтару: тэатр — гэта люстра, якое ў расквечаным і эстэтычна прыхарошаным выглядзе паказвае чалавеку, што ён за істота. Надоечы я гутарыла пра гэта са сваімі студэнтамі...

(Дарэчы, яе педагагічная дзейнасць у кансерваторыі і Інстытуце культуры заслугоўвае асобнай размовы. Яна захаплялася ёю не менш, чымся сваёй асноўнай прафесіяй — акцёрскай).

— Мы разам са сваімі юнымі сябрамі пагадзіліся, што Розанаў... Вы чытаеце Розанава? А я вось учытваюся. Дык Розанаў прызнаецца, што яму самому, бывала, надаралася быць... шакалам. Жах! Што ты бываеш часам шакалам, наўрад ці кожны з вас, мужчын, прызнае, а Розанаў шчыра, не тоячыся, прызнаецца. І далей. Слухайце ўважліва, што ён гаворыць далей! Наспадзявана і раптоўна абуджаецца ў ім, бывае, і лань. Божа міласцівы, якое гэта чароўна прыгожае стварэнне! Танканогае. Стройнае. З далікатна аксамітнай шэрсткай. І рогі — бы касцяны іерогліф загадкавага сэнсу. Лань — добрая жывёла, заўжды гатовая пакласці мызу на плячо сустрэчнаму з той пяшчотнай ласкай, якая ўласціва толькі ёй, лані... Вось якое спадзяванне нараджаецца ў падсвядомасці жанчыны, калі перад ёю з'яўляецца сапраўдны мужчына... Мо і ён прыпадзе да тваіх грудзей, як тая лань, сваім тварам... бядовай сваёй галавой...

Ах, панове крытыкі, кажу я сам сабе, напісаўшы папярэднія старонкі, вы толькі прыблізна ўяўляеце тое, што адбываецца ў душы мастака-артыста, з якіх асабістых перажыванняў стварае ён пачуццёвы свет вось гэтага свайго персанажа. Свае пакуты і радасці асабістага лёсу аддае ён ролі за роллю, з сезона ў сезон. Дзіва дзівоснае бачыць і здагадвацца, аб чым спрачаюцца і з якой прычыны адна з іх мучыцелька, а другі — кат, калі там, на падмостках, загрыміраваныя акцёры толькі тое і робяць, што водзяць вачамі. То адзін на аднаго глядзяць, то — убок, то — угару... Цудоўнае ўражанне рабілі, напрыклад, такія нямыя дыялогі на мяжы трагедыйнага зрыву паміж Луізай Мілер і Фердынандам фон Вальтарам або паміж Аленай і Андрэем Бялугіным. Самыя тонкія эмацыянальныя нюансы і няўлоўныя пачуцці зіхацелі і пераліваліся ў позірках, якімі абменьваліся Т. Аляксеева з незабыўна яркімі яе партнёрамі ў гэтых ролях — Б. Кудраўцавым і Р. Філіпавым.

Яна і ў паўсядзённых гутарках, спрэчках, успамінах у сяброўскім застоллі або на ўзлеску ля вогнішча, перабіраючы сабраныя баравікі ды асавікі, часам выглядала сабранай у кулак... Не, куды дакладней вызначае такі яе стан стрыманага тэмпераменту закулісны жаргон "Везувій, які пакуль што злёгку курыцца дымам..."

Сон... Дым...

Як ні круці, творчасць тэатральнага артыста — з'ява мімалётная. Хутка мінае і знікае яе плён, і ты захоўваеш свае ўражанні ад яе толькі ва ўспамінах. Сцэнічны персанаж, пакуль ён на сцэне, мае права гаварыць пра сябе шэкспіраўскімі словамі: "Мы створаны з тых рэчываў, што й нашы сны. І сном ахутана ўсё нашае жыццё..." І Таццяна Аляксеева, як і большасць з яе каляжанак, адкрыта смуткавала і нават бедавала, калі мы ў кампаніі меркавалі пра гэтую прывідную паэзію акцёрскага мастацтва.

Разумная жанчына, яна здзіўляла сваёй энцыклапедычнай дасведчанасцю. І — насцярожвала. Бо нездарма ж нашы бацькі яшчэ былі ўпэўнены, што лішак розуму ў жанчыны, як лішніца алею ў лампадцы, — гасіць агеньчык. Тым і прывабны быў розум гэтай актрысы, што ў ім не было прэтэнцыёзнай позы, не было лішкаў і празмернасці. У буднях і ў творчасці яна не дазваляла сабе пертварацца і ў прыгажуньку-пустазвонку, якая ўся, здаецца, умяшчаецца ў кішэнным люстэрку, у якое глядзяцца нечыя надзьмутыя або ўсмешлівыя губы. Помню, як сівы тэатральны леў Яўген Рамановіч, што лічыўся знатаком артыстычнага хараства, забачыць, бывала, здалёку Таню і прамурлыкае штосьці чутае ім некалі ў Парыжы: "Яна была б у музыцы — капрычыо, а як скульптура — статуэтка Рэнесанс..." То не было гэткім гуллівым настроем, так выказваў ён захапленне гарманічнай асобай, якой лічылася заслужаная артыстка Беларусі Таццяна Аляксеева.

...Усё гэта праносіцца перада мною прывідным бачаннем, калі мы ў гурце яе адданых прыхільнікаў збіраемся, каб адзначыць Танін дзень нараджэння або жалобную гадавіну і ўзняць удзячную чарку ў гонар тае непаўторнай песні, што адзвінела, але чуецца, чуецца, чуецца... Сама яна аднаго разу ў такім жа застоллі чамусьці прыгадала той гук струны, што лопнула вось зараз, пра які гаворыцца ў "Вішнёвым садзе" А. Чэхава. Гук журботны, і не адразу ён аціхае, нейкі час яшчэ гудзе. Гук — нібы ўздрыг нечага лёсу. Нібы развітальны акорд жыцця... Помню, яна памаўчала і сумнавата ўсміхнулася. І ўсе зразумелі, што яна хацела выказаць гэтым напамінам пра гук струны, падобны да ўсхліпу, што роспачным голасам аплаквае знікненне нават самага сціплага хараства. Аб ім і вядзецца гаворка ў нядаўна выдадзенай у Мінску кнізе "Бы ўсмешка вечаровага сонца...", якую раскупляюць наведвальнікі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Кнігу, напісаную калегамі, паклоннікамі любіміцы тэатральнай публікі — Т. Аляксеевай.

**Барыс БУР'ЯН.**

**НА ЗДЫМКУ: Таццяна АЛЯКСЕЕВА на юбілейнай вечарыне. 1982 год.**

САСПАДЧЫНЫ МАКСІМА ТАНКА

# «ЦІ ЁСЦЬ ХЛЕБ І СТРАХА НАД ГАЛАВОЙ?»

*На самым прыпачатку гэтага года пайшла з жыцця адна са старэйшых беларускіх пісьменніц Ганна Новік. Надзвычайна цяжкім і пакручастым быў лёс гэтага чалавека. Ганна Аляксееўна брала актыўны ўдзел у заходнебеларускім нацыянальна-вызвольным руху, арыштоўвалася польскай дэфензівай, патрапляла ў вязніцу, была дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі. У паваенным часе працавала старшынёй калгаса, пасля сельсавета, намочнікам начальніка палітаддзела МТС, цяжка хварэла.*

*Цягам усяго свайго жыцця Г. Новік займалася літаратурнай творчасцю — пісала вершы, апавяданні, нарысы, спрабавала сябе ў жанрах паэмы і аповесці. Першыя з іх былі надрукаваны Максімам Танкам яшчэ ў заходнебеларускіх перыёдыках. Яны вызначаліся вострым сацыяльным зместам і эмацыянальна-пачуццёвай насычанасцю.*

*Трэба сказаць, народны паэт, бадай, ніколі не забываўся на Г. Новік. Працуючы на высокіх пасадах старшыні Саюза пісьменнікаў і старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, ён турбуецца аб належных умовах яе працы і адпачынку, пасабляў маральна і матэрыяльна, рабіў парады, папраўляў і друкаваў творы. Сведчаннем таму — матэрыялы іх працяглай лістоўнай лучнасці. Допісы пісьменніцы, выяўленыя намі ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, неўзабаве будуць даведзены да публічнасці. Цяпер жа, у звязку з 85-гадовым юбілеем Максіма Танка, прапануем увазе чытачоў колькі ягоных лістоў да Г. Новік, адшуканых нядаўна ў яе хатнім архіве.*

**Мікола МІКУЛІЧ.**

*1-VIII-45 Мінск*

Паважаная таварыш Новік!

Выбачайце, што пішу пашлоўку, але мне хацелася-б, каб яна хутчэй дайшла да Вас. Я вельмі рад быў і ўсе таварышы, якія Вас ведалі, калі атрымалі ад Вас вестку, што Вы жывы і здаровы, што Вы змагаіся за вызваленне сваёй Бацькаўшчыны. Я распытваў пра Вас раней. Але мне ніхто нічога толкам не мог сказаць. Калі зможаце зараз пераслаць нам свае вершы і ўсё тое, што Вы напісалі за апошні час, было-б вельмі добра. Пераслаць можаце на маё імя, на адрас Саюза пісьменнікаў у Мінск. Прывітанне Вам ад таварышаў, якія помняць Вас. Моцна цісну Вашу руку — Максім Танк.

Паважаная Ганна Аляксееўна!

Сёння я быў у нашым рэдкамітэце, дзе бачыўся з тав. Канавалавым І. В. Ён прасіў мяне перадаць Вам, калі будзеце ў Мінску, абавязкова зайсці да яго. Падрыхтуйце які фрагмент аповесці для перадачы па радыё. А мо да гэтага часу будзе ў Вас і нарыс пра Вольгу Аляксееўну? Перадайце ёй сардэчнае прывітанне. Жадаю Вам шмат здароўя і поспехаў у працы.

**Максім Танк.**

*11.2.61 г.*

Паважаная Ганна Аляксееўна!

Пісьмо Ваша і верш "Па божаму закону" я атрымаў. Верш напісаны досыць складна, але на гэту тэму мы ведаем шмат класічных твораў і напісаных лепш. Таму, мне здаецца, ці варта яго Вам друкаваць? Вам заўсёды лепш удаваліся лірычныя вершы. Калі ёсць такія — прысылайце мне ці ў Саюз пісьменнікаў А. Вярцінскаму, які ў нас працуе кансультантам па паэзіі. Я вельмі рад, што прыслалі Вы нейкую звестку пра сябе. Пішыце, што парабляеце, як здароўе.

З найлепшымі пажаданнямі і прывітаннем

**Максім Танк.**

*Мінск, 3.ІІ.1974 г.*

*Мінск, 15.1.1977 г.*

Паважаная Ганна Аляксееўна!

Даўно ўжо мы не маем ад Вас ніякіх звестак. Ведаю толькі, што Вы працуеце, выступаеце на сустрэчах са школьнікамі. І гэта радуе, бо я помню, што ў апошніх лістах Вы скардзіліся на дрэнны стан свайго здароўя. Як чуецеся цяпер? Вельмі шкада, што Вы не дапрацавалі сваёй аповесці, якую калісьці прыслалі ў часопіс "Полымя". Там былі вельмі цікавыя старонкі. Можа, ёсць новыя вершы? Прысылайце на мой адрас. Жадаю Вам у новым годзе добрага здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага ў жыцці і ў працы.

**Максім Танк.**

Дарагая Ганна Аляксееўна!

Дзякую за пісьмо і за падборку Вашых вершаў, якія я ўважна прачытаў. Дам я іх яшчэ пачытаць нашым кансультантам. Мне здаецца, што сёе-тое можна будзе даць ці ў "ЛіМ", ці ў "Полымя". Да лепшых вершаў залічыў бы: "Даруй мне, дружа", "Слова да Радзімы", "У Вілейцы маёй", "Камсамолу", праўда, і гэтыя вершы яшчэ патрабуюць пэўнай дапрацоўкі.

Добра, што Вы чуецеся лепш і працуеце, выступаеце. Жадаю Вам добрага здароўя і ўсяго найлепшага ў жыцці і ў творчасці.

З прывітаннем

**Максім Танк.**

*Мінск. 23.1.1977 г.*

*Мінск, 9.1.78 г.*

Паважаная Ганна Аляксееўна!

Шчыра дзякую Вам за пісьмо і Навагоднія пажаданні. Асабліва радуе, што Вы актыўна ўдзельнічаеце ў грамадскім жыцці, працуеце над новымі свaімі творамі і што акружаюць Вас харошыя людзі. Калісьці з Мікалаем Андрэевічам мы гаварылі пра Вас, успаміналі Вас добрым словам.

Вершы свае і апавяданні прысылайце мне на адрас Саюза пісьменнікаў (Мінск, вул. Фрунзе, 5). Тут я пачытаю з сябрамі і падумаем, куды іх даць. А агулам, як жывецца? Ці ёсць хлеб і страха над галавой? Пішы! Прывітанні таварышам Булгаку і Судніковічу і падзяка за іх чалавечыя адносіны да Вас.

З найлепшымі пажаданнямі

**Максім Танк.**

*Публікацыя Міколы МІКУЛІЧА.*







## ВЫСТАВЫ

**У музеі Беларускай акадэміі мастацтваў адбылася незвычайная нямецка-беларуская выстава пад назвай "Тэксты". Канцэпцыю нямецка-беларускага выставачнага праекта "Тэксты" распрацавалі ўдзельнікі гэтай экспазіцыі Міхаіл Баразна з Акадэміі мастацтваў і нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ ў Мінску. Усяго ў выставе ўдзельнічаюць трынаццаць мастакоў абедзвюх краін.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час урачыстага адкрыцця выставы; работа Хайнрыха фон дэн ДРЫША; работа Артура КЛІНАВА.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## ПРАЗ ВЫПРАБАВАННІ І НЯГОДЫ

На долю Рамана Сабаленкі (нарадзіўся 15 кастрычніка 1907 года, памёр 13 мая 1975-га) выпала нямала жыццёвых выпрабаванняў і нягод. Сын селяніна з вёскі Сабалі цяперашняга Брагінскага раёна, Р. Сабаленка скончыў Гомельскі педагагічны тэхнікум, вучыўся ў Гомельскім педагагічным інстытуце, працаваў у газеце "Звязда", служыў у Чырвонай Арміі. Але ў 1933 годзе яго нечакана арыштавалі. На шчасце, хутка адпусцілі. Другі раз ён быў арыштаваны ў 1937-м, але зноў справу закрылі. Успомнілі пра тыя арышты ў гады вайны і асудзілі Ваенным трыбуналам да 10 гадоў пазбаўлення волі. Праўда, і гэты прыгавор быў адменены з-за адсутнасці саставу злачынства.

Раман Сабаленка ўдзельнічаў у баях на Калінінскім і 2-м Прыбалтыйскім франтах. У пасляваенны час рэдагаваў баранавіцкую абласную газету "Чырвоная звязда", працаваў у рэдакцыях газеты "Калгасная праўда", часопіса "Маладосць", а з 1957 па 1966 год з'яўляўся намеснікам галоўнага рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва".

Пачынаў творчы шлях з вершаў. У 1935 годзе ў часопісе "Полымя" апублікаваў паэму "Брагін". Выдаў зборнікі паэзіі "З родных крыніц" і "Мая эстафета". І ўсё ж большую вядомасць Р. Сабаленку прынесла проза, у першую чаргу аповесці "Юнацтва ў дарозе", "Выпрабаванне сталасці" ("Іду ў жыццё"), "Былое застаецца ў сэрцы", што склалі трылогію "Іду ў жыццё". Выдаў таксама кнігу нарысаў пра дзеячаў культуры і літаратуры "Колерамі вясёлкі".

## ПАЛЯКІ РОБЯЦЬ ЗА НАС

У Польшчы да друку рыхтуецца кніга Дарыуша Сьлядэцкага "Старажытныя могілкі ў Слоніме на Беларусі".

Гэту кнігу польскі гісторык і журналіст Д. Сьлядэцкі напісаў па матэрыялах, якія сабраў у экспедыцыі ў Слоніме, кіраўніком якой ён быў. Група энтузіястаў з Польшчы (навукоўцы, студэнты, навучэнцы ліцэяў) на працягу летніх месяцаў даследавалі ў Слоніме старажытныя могілкі на Ружанскай вуліцы, у Альбярціне, на Лабазоўцы, нямецкія могілкі з першай сусветнай вайны.

Да сённяшняга дня Дарыуш Сьлядэцкі ўспамінае, як цёпла сустрэлі іх слонімцы. Каля ста чалавек мясцовых жыхароў дапамагалі энтузіястам з Польшчы добраўпарадкоўваць могілкі. Удзельнікі экспедыцыі жылі ў слонімскіх сем'ях і вельмі пасябравалі з нашымі людзьмі.

Падобныя экспедыцыі праводзяцца на Беларусі з 1990 года. Іх мэта — захаваць для гісторыі тыя старажытныя помнікі, якія знаходзяцца пад пагрозай знішчэння.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## ВЕРНІСАЖ АКАДЭМІКА

У галерэі "Мастацтва" адбылося адкрыццё персанальнай выставы акадэміка жывапісу, прэзідэнта Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікса Янушкевіча.

Экспазіцыя невялікая, але яна не рэтраспектыўны позірк 40-гадовага жывапісца на ўласны творчы шлях, палову якога складаюць вучоба ў спецыялізаванай Рэспубліканскай школе імя І. Ахрэмчыка, у тэатральна-мастацкім інстытуце, аспірантура ў акадэмічным Інстытуце этнаграфіі, мастацтвазнаўства і фальклору, навучанне ў творчых майстэрнях жывапісу Акадэміі мастацтваў СССР, а складзена з прац апошняга года. Сярод іх вылучаюцца палотны "Здарэнне ў парку", "Гліняны пеўнік", нізка "Крыжовай Галгофы", "Памяці Міколы Селешчука", "Двое" і інш.

*ЗАХАПЛЕННІ*



# І САБЕ, І СУСЕДЗЯМ

Сяргей з дзяцінства любіў прыроду. Хадзіў з хлапчукамі на Свіцязь. Захапілі яго паданні, якія бытуюць у наваколлі. Найбольш іх пра горад Свіцязь, на месцы якога разлілося возера.

Старажылы расказвалі, што яны, калі былі малымі, нібыта бачылі чатыры слупы, аброслыя мохам і падобныя да калодзежных. Нібы па вадзе плавалі вушакі ад дзвярэй, бярвенні ад будынкаў. А далей ад берага можна было ўбачыць на дне возера выбрукаваную дарогу.

Сяргей такога не бачыў, а на берагах знаходзіў шмат дзівосаў — дрэў рознай формы, карчоў, падобных да звяроў і людзей. Карцела самому нешта змайстраваць з дрэва. Так захапіўся ён разьбой.

Цяпер Сяргей Зайка працуе лесніком у Свіцязянскім лясніцтве.

Шмат прыгожых работ у лесніка. Праўда, у апошні час адцягвае яго ад разьбы будаўніцтва свайго дома, які Сяргей Уладзіміравіч аздабляе цудоўнымі ўзорамі. Між іншым, гэта таксама разьба па дрэву. І не толькі для сябе: людзі будуць любавацца хараством.

Знаёмым, суседзям ён памагае і справай, і парадай. Выконвае і заказы паляўнічых, робіць ім прыклады для стрэльбаў, вядома, упрыгожаныя ўзорамі, відамі прыроды.

**НА ЗДЫМКУ: Сяргей ЗАЙКА з рагамі лася, якія знайшоў і апрацаваў.**

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# «КЛУБ ЕЎРАПЕЙЦА» ЧАКАЕ ВАШАЙ ПАДТРЫМКІ!

У савецкія часы ўсе мы прайшлі праз розныя клубы інтэрнацыянальнай дружбы. Асабіста я пабываў у такіх КІДах у школе, ва універсітэце, дзякуючы гэтаму ў мяне было шмат сяброў за межамі краіны і... шмат непрыемнасцей з боку кантралюючых, прабачце, кантраляваўшых гэтую "дружбу", асабліва з КДБ!

Вучні школы, дзе я працую выкладчыкам рускай і польскай моў, а ў пазаўрочны час яшчэ і беларускай (бясплатна), вырашылі стварыць "Клуб еўрапейца" на ўзор тых, што ў польскім горадзе Тарнаў, адкуль мы і атрымалі пра гэта ліст з паведамленнем. Мы вырашылі не адставаць ад палякаў і ствараем свой, ізяслаўскі "Клуб еўрапейца". Мэта клуба: сяброўская перапіска з равеснікамі за межамі Украіны і ў краіне на мовах, якія вывучаюцца ў школе, а менавіта: англійскай, польскай, беларускай, рускай, украінскай. Узрост карэспандэнтаў — ад 10 да 17 гадоў. Спадзяемся з дапамогаю газеты "Голас Радзімы" наладзіць перапіску са сваімі равеснікамі з Беларусі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, ЗША, Канады, Уругвая, Аргенціны, Аўстраліі ды іншых далёкіх і блізкіх краін. Просім дарослых чытачоў газеты дапамагчы нам у наладжванні сяброўскай перапіскі, за што выказваем усім шчыры дзякуй! Лісты чакаем вось на гэты адрас: **"Клуб еўрапейца", 281200, м. Ізяслаў, почтамт, а/с 8, Хмельніцька область, Украіна.**

"Клуб еўрапейца" чакае вашу дапамогу!

**Рычард ЯГЕЛОНЧЫК,**
**прэзідэнт "Клуба еўрапейца"**
**СШ № 1 г. Ізяслава.**

# ЛЕКАВЫЯ РАСЛІНЫ І ФІЛАТЭЛІЯ

З глыбокай даўніны падпільноўвалі чалавека хваробы. У пошуках сродкаў супраць немачы чалавек звяртаўся да прыроды. Сувязь з ёю навучыла чалавека распазнаваць многія з лекавых траў.

Пошта былога СССР выпускала серыю марак аб лекавых раслінах, але туды не ўвайшлі травы, што растуць у Беларусі. Яшчэ ў 1968 годзе я пачаў ствараць філатэлістычную калекцыю "Старонкі гісторыі Беларусі". І ў гэтай калекцыі аб лекавых раслінах, што растуць у нас, я не мог расказаць, выкарыстоўваючы выпускі савецкай пошты. А расказаць ёсць пра што.




Першая палова XVI стагоддзя азнаменавалася выдатнай падзеяй — з'яўленнем першага беларускага доктара медыцыны. І хаця Ф. Скарына сваё жыццё прысвяціў кнігадрукаванню, займаўся ён і медыцынай, і батанікай. Ён удзельнічаў у закладцы каралеўскага батанічнага саду ў Празе, быў "в лекарских науках доктором". На вядомым партрэце Ф. Скарыны ён пაказаны ў сваім кабінеце сярод кніг, малюнкаў лекавых раслін, што вісяць на сцяне, адлюстраванняў пасудзін, якія служаць "для пропущения" (дыстыляцыі) лекавых траў.

Упамінаюцца лекавыя расліны іншы раз з указаннем іх выкарыстання ў "Словарце" граматыкі Лаўрэнція Зізанія ў 1596 годзе.

Вядомы пісьменнік і асветнік XVII стагоддзя Сімяон Полацкі ў сваіх працах пры лячэнні хвароб не грэбаваць лекавымі раслінамі. У адным са сваіх вершаў ён расказвае аб лячэнні травамі праказы.




У XVI стагоддзі ў Вільні адкрылася першая аптэка, у якой было многа лекавых траў. У гістарычных дакументах таго часу ўпамінаюцца аптэкары ў Брэсце, Магілёве, Гродне. У "Писцовой книге" Пінскага староства за 1561 год упамінаюцца 4 дактары і аптэкар Станіслаў. Згаданая аптэка ў Вільні была заснавана прыкладна ў 1510 годзе, калі з Кракава ў Вільню прыехаў урач-алхімік Быліnскі для лячэння хворага вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра. Урач Быліnскі прывёз з сабой і першую аптэку, у наборы лякарстваў якой было многа лекавых траў і каранёў.

У перыяд руска-польскай вайны 1654 года русія войскі, знаходзячыся на тэрыторыі Беларусі, забяспечваліся лекавымі травамі і іншымі таварамі са складаў Полацка і Магілёва. Ёсць весткі, што ў 1666 годзе з Полацка і Смаленска ў Маскву было дастаўлена 20 пудоў лекавых траў.

У 70-х гадах XVIII стагоддзя ў Беларусь быў запрошаны французскі батанік і доктар Ж. Жылібер для арганізацыі ўрачэбнай школы ў Гродне. Жылібер не толькі арганізаваў школу ў горадзе, але і заклаў у яго прадмесці Каралеўскі батанічны сад, які па разнастайнасці, рэдкасці і колькасці лекавых і іншых раслін не саступаў ніводнаму еўрапейскаму батанічнаму саду. Батанік Жылібер і яго вучні вывучалі прыроду Беларусі і Літвы, збіралі гербарый у наваколлі Гродна, Брэста, Нясвіжа, Беластока, Навагрудка, Вільні. Вынікам гэтых даследаванняў стала праца "Flora Lithuanica inchoata", адзін з раздзелаў якой апісвае 95 відаў лекавых раслін і іх прымяненне.

У 1791 годзе ўбачыла свет праца С. Юндзіла "Апісанне раслін у правінцыі Вялікага Княства Літоўскага", дзе аўтар упамінае шэраг лекавых раслін з указаннем іх прымянення.

Буйным даследчыкам лекавых раслін Расіі быў акадэмік І. Ляпехін (1740—1802). У 1773 годзе ён наведаў Беларусь, апісаў і сабраў 433 віды лекавых раслін у наваколлі Віцебска разам з удзельнікам экспедыцый М. Азерацкоўскім.

У пачатку XIX стагоддзя былі апублікаваны гісторыка-геаграфічныя і статыстычныя агляды Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў, у якіх былі змешаны матэрыялы і апісанні "антилекарских растений", што ўжываюцца ў афіцыйнай медыцыне, і спісы мясцовых народнаўрачэбных раслін з апісаннем метадаў іх прымянення.

Многа матэрыялаў аб народнай медыцыне і лячэнні травамі можна знайсці ў "Памятных книжках" некаторых беларускіх губерняў.

У этнаграфічнай рабоце М. Федароўскага апісваецца 217 відаў лекавых раслін народнай медыцыны, якія спажываюцца "людам беларускім на зямлі літоўскай". У пераліку лекавых раслін Гродзеншчыны М. Федароўскі паведамляе і лацінскія, і мясцовыя назвы раслін, апісвае іх прымяненне ў народнай медыцыне, паведамляе, што кожны выпадак лячэння суправаджаўся вымаўленнем спецыяльнай замовы.

Цікавілася лекавымі травамі вядомая пісьменніца Эліза Ажэшка. Падарожнічаючы па Гродзеншчыне, пісьменніца сустракалася са знахарамі і знахаркамі, распытвала іх аб травах, аб метадах лячэння імі, збірала народныя назвы гэтых раслін. Яна сабрала вялікі гербарый лекавых раслін і запісала амаль 230 народных назваў лекавых раслін і спосабаў іх ужывання. Усе свае назіранні і веды ў гэтай галіне пісьменніца змясціла ў творы "Людзі і кветкі на берагах Нёмана", які быў апублікаваны ў геаграфа-этнаграфічным часопісе "Вісла".

На Беларусі лекавыя травы прадаваліся ў так званых травяных лаўках. У Мінску ў 1850 годзе акрамя аптэк былі 4 травяныя лаўкі. У другой палове XIX стагоддзя ў Беларусі вырошчваліся лекавыя расліны з прамысловымі мэтамі. У "Земледельческой газете" за 1894 год нехта Н. Ігнатовіч-Сушынскі расказаў аб вопыце развядзення мяты і іншых лекавых раслін у Магілёўскім павеце. У 1893 годзе аўтар сабраў 22 пуды сухога лісця мяты і 10 фунтаў эфірнага масла.

З пачаткам першай сусветнай вайны, калі быў лекавы крызіс 1915 года, у Беларусі пачалі ствараць плантацыі лекавых раслін і вёўся арганізаваны збор лекавых траў.

Сёння з усёй флоры Беларусі лячэбнае прымяненне маюць 264 віды дзікарастучых ці здзічэлых культурных вышэйшых раслін. У апошнія гады цікавасць да іх прыкметна ўзрасла.

У 1996 годзе пошта рэспублікі выпусціла серыю з 4 марак і блока, прысвечаных лекавым раслінам. На іх паказаны аер звычайны, крываснок лекавы, крушына ломкая, дуброўка прамастаячая і бабок трохлісты. Тады ж было выдадзена тры канверты з адлюстраваннем дымніцы лекавай, палыну горкага, святаянніка дзіркаватага.

Калекцыі філатэлістаў упершыню папоўніліся паштовымі выпускамі аб лекавых раслінах Беларусі.

**Леў КОЛАСАЎ.**

Рэдактар
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



**НАШ АДРАС:**
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1523. Падпісана да друку 27.10.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.